ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

ВЫДАЕЦЦА З 1932 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

№ 15 (2646) • Пятніца, 13 красавіка 1973 года. • Цана 8 кап.

## ВЯСНА ТРЭЦЯГА РАШАЮЧАГА




К. СЕМУХА. Красавіцкая сюіта (ліагравюра).

ЯК ЛЁГКА ДЫХАЕЦЦА ЗНОЎ!
КАЛЫША ДРЭВЫ ВЕЦЕР
ВЕСНІ,
РАКА ВЫХОДЗІЦЬ З БЕРАГОЎ,
ПРАЛЕСКІ-ЗОРАЧКІ
НА ЎЗЛЕССІ!

І АБУДЖАЮЦЦА ПАЛІ,
ЖАЎРУК УЗНЁСЛА Ў НЕБЕ
ЯСНЫМ
ПЯЕ ЎРАЧЫСТЫ ГІМН
ЗЯМЛІ,
РУПЛІВЫМ СЕЙБІТАМ
КАЛГАСНЫМ!

Р. БАРАВІКОВА.



Дружна выйшлі ў поле механізатары калгаса імя Энгельса Бялыніцкага раёна.

Фота Л. ШАСТАКОВА. (БЕЛТА).

# СВЕТ СЯЛІБЫ ПАЭТА

У НЕЗВЫЧАЙНУЮ атмасферу ўласцівага В. Зуёнку паэтычнага светаадчування мы трапляем з першай жа старонкі яго новага зборніка «Сяліба». І адразу ж узнікае жаданне разам з паэтам скрышыць «сваёй чэрствасці камень» і развеяць пыл «на крылах вятроў» («Паміж сэрцам маім і трывогай...»), зразумець загадкавасць свету, калі расінка лугавая свеціцца прамяністым вочкам, кожная лісцінка здаецца пушчаю, а за кожнай пырынкай бачны «узмах тугі крыла» («Ці бог ішоў з парадай...»), убачыць, як «сонца ўжо свайму тэлеграфісту — праменьчыку — перадае шыфроўку, і кропкі кропель звоняць капяжамі...» («Вясна ідзе»), як «ліхтаршчык высокіх нябёс — жаўранак — тушыць зоры» і ў тым жа вершы імкнуцца самому «ладзіць мазольнай рукой лёс і зямлі, і неба» («Смутак — начны валадар...»).

Паэтычныя малюнкі В. Зуёнка надзвычай вобразныя і ў той жа час вельмі дакладныя. «Тапырацца шпакі на правадах... Сарваліся ... Знікаюць чорнай хмаркай». Альбо: «На ўзгорку хвойнік, як вясновы сцяг, вечназялёным полымем шугае» («Дрыготкая бярозка пад акном...») Толькі паэт можа адчуць, як «...глыбу нематы прарэзала надозімкам травінка!» («Асенне-адзінока чараты...»), убачыць, што «на небе сёмым, быццам на палку, дуб вецццем плечы трэ маладзіку, а карапямі хвошча ў падзямеллі чарцей...» («Дуб у чатырох вымярэннях»). Аднак усё гэта іскрыстае багацце выяўленчых сродкаў вобразнай мовы ў В. Зуёнка ў гэтым зборніку ідзе не ад жадання паказаць сваё ўмельства, свае магчымасці (як было часам у папярэдніх кнігах, возьмем, напрыклад, верш «Стары цацярук»), а ад імкнення паглыбіць асноўную думку многіх вершаў, ад большай, чым раней, схільнасці да роздуму над сучасным жыццём, над роляй і месцам паэта ў яго імклівай плыні.

У некаторых вершах («Роздум», «Размова з буслам») узнікае знаёмая раней і ў В. Зуёнка, і ў многіх паэтаў яго пакалення, тэма мінулай вайны.

«Колькі яшчэ будуць аўтаматы над дзяцінствам нашым клекатаць?» — пытаецца паэт, сцвярджаючы, што ўсё яшчэ звіняць над галовамі яго равеснікаў мільёны куль, «лютуюць бомбы і шалеюць міны». В. Зуёнак у гэтых вершах ідзе значна далей простага расказу пра сваё пакаленне, апаленае вайной, якое перажыло ўсе яе жахі. Зварот да гэтай тэмы арганічна ставіць перад паэтам сур'ёзнае пытанне: як жыць, каб быць вартымі загінуўшых, каб найлепей працягваць справу тых, хто загінуў на апошняй вайне?

> Расой чырвонай апаліў траву  
> Хтось за мяне ў той чорнай  
> крутаверці.  
> Чым адплаціць, што я жыву?  
> Жыву,  
> Хаця маімі  
> стаць маглі  
> ўсе смерці.  
> («Роздум»).

Абвостраная грамадзянская адказнасць за сучаснае жыццё, за кожную пражытую хвіліну гучыць у многіх вершах В. Зуёнка. Па-філасофску асэнсоўваючы кожнае пражытое імгненне ў наш імклівы час, паэт у вершы «Як лёгка наперад глядзець...» заклікае:

> ...Час, не віхурся ж дарма,  
> Сэрца маё пераворвай!  
> Шчодры рабі засеў—  
> Не позна яшчэ!

Марна пражытая кожная хвілінка для паэта — «дакор былых гадоў». Таму трэба кожнае імгненне насычаць як мага большым чалавечым зместам, бо толькі «рэкі дзяцінства самыя глыбокія, дрэвы дзяцінства самыя высокія, сцежкі дзяцінства самыя далёкія, ночы дзяцінства самыя кароткія» («Рэкі дзяцінства...»). А з кожным пражытым годам «рэкі мялеюць, дрэвы ніжэюць, сцежкі карацеюць, ночы даўжэюць», і толькі ў сталым узросце прыходзіць адчуванне напоўненасці кожнага імгнення, адчуванне адзінства паміж уласным «Я» і прыродай і наваколным светам, калі перад «вечнасцю таемнай» ты толькі сам і калі ты «адчуў, як зоры важаць час» («Змярканне»). У гэтым вобразе — вельмі дакладнае адчуванне трывожнага неспакою душы лірычнага героя В. Зуёнка, неспакою менавіта ад незвычайна ўзросшай яго адказнасці за кожны крок і ўчынак у жыцці.

У некаторых вершах зборніка «Сяліба» В. Зуёнак раскрывае яшчэ адну грань свайго таленту — сатырычную і гумарыстычную. Востра высмейвае ён так званае «ўменне» кідаць на вецер словы, гаварыць банальнымі штампамі, асабліва на сходах і юбілеях («Аб рыфмах»), весела смяецца з небаракі-цытатчыка Ціта Лузіка, які патануў, не прыпомніўшы патрэбнай цытаты, замест таго, каб крычаць: «Ратуйце!» («Апошні даклад»). Цёплым гумарам прасякнуты вершы «Вечарам на прызбе», «Ехаў дзед дадому...». Трэба адзначыць і дакладнасць, трапнасць псіхалагічных замалёвак звычайных людзей з народа ў гэтых творах, дзе ўдала абыгрываецца мастацкая дэталь, тыя ці іншыя рысы характару.

Васіль Зуёнак. «Сляліба». Вершы і паэма. «Мастацкая літаратура». Мінск. 1973.

СПРАВЫ ВЫДАВЕЦКІЯ

# «НАВУКА І ТЭХНІКА», 1973

У мінулым годзе споўнілася 90 год з дня нараджэння народных паэтаў Беларусі Янкі Купалы і Якуба Коласа. У сувязі з гэтай датай выдавецтвы Беларусі пачалі новыя выданні збораў твораў народных паэтаў. У 1971 годзе выдавецтва «Навука і тэхніка» аб'явіла падпіску на Збор твораў Янкі Купалы ў сямі тамах. Чытачы ўжо атрымалі першы том. Цяпер здадзены ў друк другі том, у наборы трэці і чацвёрты тамы. Выданне твораў Янкі Купалы на высокім тэксталагічным і паліграфічным узроўні — ганаровая задача выдавецтва.

Апрача таго, выдавецтва выпусціць у бягучым годзе працы беларускіх вучоных па шырокаму колу навуковых праблем, якія распрацоўваюцца ў нашай рэспубліцы.

Выйшла з друку праца М. Тычыны «Кузьма Чорны. Эвалюцыя мастацкага мыслення». Малады літаратуразнаўца даследуе працэс стварэння пісьменнікам мастацкага твора, тлумачыць прычыны змен у тэксце твора, характар гэтых змен. С. Андраюк у манаграфіі «Жыццё, літаратура, героі» аналізуе лепшыя празаічныя творы сучаснай беларускай літаратуры, разглядае некаторыя тэарэтычныя пытанні — гістарызм і сучаснасць, праблему станоўчага героя, узаемаадносіны жыццёвай і мастацкай праўды і інш.

Ужо сама назва даследавання М. Барсток «Адзінства і разнастайнасць сучаснай беларускай паэзіі» раскрывае яго праблематыку. У цэнтры ўвагі аўтара творчае ўзаемадзеянне паэтычных пакаленняў, стылявая шматграннасць беларускай паэзіі, паэтычнае майстэрства. Убачыць таксама свет праца Э. Мартынавай «Беларуска - ўкраінскі паэтычны ўзаемапераклад». Шматтомнае серыйнае выданне «Беларуская народная творчасць» папоўняць «Чарадзейныя казкі» і «Жніўныя песні».

Масавым тыражом выйдуць запіскі былога франтавіка, цяпер вучонага - матэматыка, Героя Сацыялістычнай Працы М. Яругіна «Пра тых, хто выстаяў» (на рускай мове). Аўтар расказвае пра першыя месяцы абароны Ленінграда, у якой ён прымаў непасрэдны ўдзел у якасці афіцэра-артылерыста з верасня 1941 па люты 1942 года.

Сярод прац па мовазнаўству — цікавае калектыўнае даследаванне «Сучасная беларуская мова. Пытанні культуры мовы». Тут беларускія мовазнаўцы разглядаюць мала распрацаваныя пытанні вымаўлення, націску, словаўтварэння і словазмянення. А. Падлужны і В. Чэкман у манаграфіі «Гукі беларускай мовы» на аснове навейшых анатама-фізіялагічных дадзеных апісваюць асаблівасці ўтварэння галосных і зычных гукаў. Іх эксперыментальны матэрыял будзе апублікаваны ўпершыню. Апісанне суправаджаецца шматлікімі ілюстрацыямі.

Плануецца «Слоўнік народных гаворак заходняй Браншчыны», складзены П. Растаргуевым. Слоўнік дасць каштоўны матэрыял для параўнальнага вывучэння рускай і беларускай моў, іх узаемаўплыву і ўзаемапранікнення. Усяго ў слоўніку 8000 слоў.

У 1973 годзе пачынаецца выданне сямітомнага «Зводу помнікаў гісторыі і культуры Беларусі», у які ўвойдзе апісанне гістарычных, археалагічных, архітэктурных і мастацкіх помнікаў нашага народа. Том прысвячаецца кожнай вобласці і асобны — Мінску. У першым змешчана апісанне ўсіх найбольш каштоўных помнікаў Брэстчыны.

У вытворчасці знаходзіцца праца У. Халіпа «Радок, прачытаны тэатрам». Аўтар вядзе зацікаўленую размову аб асаблівасцях законаў тэатральнага мастацтва, аб інсцэніроўках празаічных твораў, вызначае найбольш спрыяльныя шляхі перакладу твораў прозы на мову тэатра. С. Пятровіч у даследаванні «Беларускі тэатр юнага гледача» аналізуе саракагадовы творчы шлях гэтага тэатра, паказвае яго ролю ў камуністычным выхаванні маладога пакалення.

А. Красінскі ў манаграфіі «Беларускія акцёры ў кіно» расказвае аб вобразах, створаных у кіно У. Крыловічам, Л. Мазалеўскай, Г. Глебавым. Запланаваны да выдання працы І. Ялатамцавай «Нарысы па гісторыі беларускай станковай скульптуры», П. Карнача «Дэкарацыйнае мастацтва музычнага тэатра БССР», Т. Чарняўскай «Архітэктура горада Магілёва» і шэраг іншых.

Г. ЮРЧАНКА.






Вокладкі новых кніг, якія нядаўна выйшлі ў выдавецтве «Мастацкая літаратура»: «Снежныя зімы» І. Шамякіна (пераклад А. Астроўскага, мастак П. Калінін), «Журавінка» Р. Барадуліна (мастак Б. Забораў), «Васёк — матроская душа» В. Галавача (мастак І. Давідовіч), «Дзе віруе Бяроза» М. Ваданосава (мастак В. Харэўскі), «Боцман на крызе» Б. Плудры (пераклад С. Міхальчука, малюнкі Г. Мазурына, вокладка Ю. Зайцава).

# У АКОВАХ МАНАПОЛІЙ

АБ КРЫЗІСЕ буржуазнай ідэалогіі, маралі, культуры гаворыць увесь прагрэсіўны свет. Гэта ісціна, якую і сама буржуазія не можа схаваць. Амерыканцы, напрыклад, даўно прызналіся, што іх вялікае грамадства стала хворым і ўсё больш пішуць аб «паралічы духу амерыканскага народа». Гэтай тэме прысвечана і даследаванне кандыдата філасофскіх навук, дацэнта БДУ імя У. І. Леніна Ю. Гусева «У аковах манаполій».

Аўтар паставіў перад сабой задачу паказаць, як імперыялістычныя манаполіі, падпарадкаваўшы ўсю духоўную культуру грамадства сваім палітычным і эканамічным інтарэсам, ператварылі друк і радыё, кіно і тэлебачанне, літаратуру і мастацтва ў сродак адурманення працоўных у духу антыкамунізму, у сродак ідэалагічнай барацьбы супраць сацыялістычнага свету.

З першых жа старонак аўтар звяртае ўвагу на тое, што сучасны дзяржаўна-манапалістычны капіталізм, які сканцэнтраваў у сваіх руках ільвіную долю грамадскай вытворчасці, пануе над жыццём сваіх нацый. Ён справядліва адзначае, што працэс манапалізацыі з няўхільнай сілай дзейнічае не толькі ў прамысловай, але і ў духоўнай вытворчасці, у сферы масавай камунікацыі, літаратуры і мастацтва, культуры ў цэлым. Так, пасля другой сусветнай вайны колькасць уплывовых газет у ЗША скарацілася з 49 да 31, і яны цалкам залежаць ад магутных манаполій Ракфелераў, Дзюпанаў, Гарыманаў і інш. Літаратура і мастацтва тут з'яўляюцца таварам, які перш за ўсё служыць палітычнай стратэгіі манапалістаў, праслаўленню капіталістычнага вобраза жыцця, прапагандзе антысацыялістычных, чалавеканенавісніцкіх ідэй. А калі ж мастацкі твор не адпавядае інтарэсам буйнай буржуазіі, «перад ім вырастае манапалістычны шлагбаум, які закрывае выхад да чытача, гледача або слухача».

Аналагічны працэс назіраецца і ў кінамастацтве. Зусім нядаўна там панавала Вялікая васьмёрка — 8 галівудскіх фірм. Цяпер іх засталося толькі чатыры. І яны працягваюць выпускаць баевікі, кінажахі, парнаграфічныя фільмы, атручваючы свядомасць свайго народа.

Ю. Гусеў слушна заўважае, што было б няправільна разглядаць працэс манапалізацыі духоўнай вытворчасці толькі як імкненне да бізнесу. Нельга не бачыць тут і палітычных мэт буржуазіі, якая з дапамогай нізкапробнай літаратуры, кінажахаў, абстракцыянізму, «канкрэтнай музыкі» і г. д. узводзіць паклёп на Савецкі Саюз, сацыялістычную сістэму, на ўсё светлае ў чалавеку, прышчапляе яму звярыныя інстынкты, жорсткасць, эгаізм.

З партыйна-класавых пазіцый з публіцыстычным запалам аўтар выкрывае антынародны характар твораў амерыканскіх пісьменнікаў Мікі Спілейна, Генры Мілера і іншых разбэшчвальнікаў чалавечых душ, прапагандыстаў амаралізму, забойства, прыводзіць вытрымкі з іх «твораў».

Музы знаходзяцца ў палоне і адначасова ў палітычнай сістэме буйнай буржуазіі ЗША і ФРГ, Англіі і Францыі, Італіі і Грэцыі, Канады і Японіі і іншых капіталістычных краін. Як гэта не дзіўна, але факт застаецца фактам: тонкімі справамі муз у Амерыцы (і не толькі ў ёй) займаюцца і ваенныя ведамствы. Яны выкарыстоўваюць сферу мастацтва для таго, каб падрыхтаваць новыя атрады за-

Ю. Гусеў. «У аковах манаполій». Узмацненне манапалізацыі сродкаў духоўнай вытворчасці і яе пагібельны вынік. Мінск, «Беларусь», 1972.

Часам паэт, ведучы думку ці развіваючы вобраз па законах свайго метафарычнага мыслення, настолькі захапляецца гэтым, што адрываецца ад глебы рэальнасці і тады ўзнікае жаданне з ім паспрачацца. Напрыклад, невядома, супраць каго накіраваны гнеў паэта ў вершы «Сакавік. Дажджы асеннія...».

У вершы В. Зуёнка «Сплывае гук...» тое ж уласцівае паэту адчуванне адказнасці за кожнае імгненне жыцця, асабліва перад непазбежнасцю смерці, калі «над галавой нявысненая песня кружыцца будзе ціха...». Выдатны верш, на маю думку, сапсаваны банальна-сентыментальнай, «рамансавай», незразумелай канцоўкай, якая зніжае мужнае гучанне ўсяго твора:

**Ды часам адзінокая жанчына,**
**Дзе ўзносіць камень шэрае плячо,**
**Панікне на далонях успамінаў**
**Бяссоннаю тугою—снегам шчок. (?)**

Надуманая, нераскрытая «значнасць» праблемы ў вершы «На чацвёртым дзесятку»:

**...Як і ўчора не спалася —**
**Зноў не спіцца сягоння...**
**Недзе сорак падкралася —**
**І з парога не згоніш...**

Добра, што такіх неабавязковых радкоў мала ў цэласным увогуле зборніку «Сяліба».

Вядома, цяжка і немагчыма даваць парады, як паводзіць сябе ў розных жыццёвых сітуацыях, ды і не ў гэтым прызначэнне паэзіі. У вершы «Можна ў сцежцы змыліцца...» В. Зуёнак паказвае сціплае жаданне жыць так, каб не адвярнуліся ад цябе людзі, не адштурхнуў з праклёнам прэч бераг, каб была заўсёды пад нагамі сцежка... Ты, чалавек, губляеш усё, калі «...змыліцца маці ў табе і Радзіма». Сцвярджэнне асабістага і грамадскага, як цэласнага адзінства, непадзельнага з першага кроку чалавека на зямлі, — гэтым лепшыя вершы В. Зуёнка працягваюць выдатныя традыцыі беларускай савецкай літаратуры.

Коласаўскае разуменне паняцця «мой родны кут» прагучала і ў паэме Васіля Зуёнка «Сяліба», якая дала назву ўсёй кнізе.

Спачатку для аўтара Сяліба — гэта родная мясціна, дзе аселі калісьці продкі, лапінка зямлі на выспе, сярод лясоў, якую абдымалі «дзве ракі, як дзве рукі». І паступова мы бачым, як межы Сялібы паэта, нібы канцэнтрычныя кругі, усё пашыраюцца і пашыраюцца. Ён і Яна — героі паэмы, якія вядуць увесь час дыялог паміж сабой, — адчуваюць сваё прызнанне не толькі жыць на зямлі, але і актыўна працаваць на ёй, мяняць дзеля таго, каб чалавеку лепш жылося, яе аблічча. «Саперніцтва з прыродай — непазбежнасць, як непазбежнасць—розум у прыродзе» — сцвярджае разам з гераіняй паэт. А калі гэта так, дык тым большая адказнасць кладзецца на тых, хто заклікаць пераўтвараць зямлю і прыроду. «Саперніцтва — яно не бой крывавы», — гучыць у творы папярэджанне, нібы працягваючы асноўны ідэйна-тэматычны напрамак папярэдніх вершаў В. Зуёнка. І вось ужо для паэта і яго герояў, якія гэта добра ўсведамляюць, Сяліба — уся наша зямля, уся планета, пра якую мы павінны дбайна клапаціцца, вынесці яе на руках «з бою — як салдата», забінтаваць і загаіць яе раны і ўрачыста перадаць «блакітную — нашчадкам».

Да паэта В. Зуёнка прыйшла сапраўдная сталасць. Чытаючы яго кнігу «Сяліба», мы бачым, што разам са сталасцю з'явілася ў паэта ўсведамленне вялікай адказнасці за кожнае слова, паэтычны радок, за кожную страфу, за ўсё, што робяць на зямлі паэт і яго героі. І цяпер мы з яшчэ большай цікавасцю будзем чакаць новых сустрэч у свеце яго паэзіі, яго паэтычнай Сялібы.

**Ванкарэм НІКІФАРОВІЧ.**

# ПРА МУЖНАСЦЬ

У пачатку кнігі Сяргея Свірыдава «Загадкавы стрэл» ёсць некалькі слоў ад аўтара. Ён гаворыць, у прыватнасці: «У час Вялікай Айчыннай вайны я працаваў рэдактарам газеты «Кліч партызана», якая выходзіла ў партызанскай брыгадзе Героя Савецкага Саюза Аляксея Данукалава. У канцы 1942 года Віцебскім падпольным абкомам партыі быў адкліканы з брыгады і накіраваны ў газету «Віцебскі рабочы», дзе выконваў абавязкі адказнага сакратара рэдакцыі». Словы гэтыя, а таксама падзагаловак, які называецца «Партызанскія былі», даюць падставы меркаваць, што кніжка напісана на дакументальным матэрыяле.

«Кліч партызана» — так называецца першае апавяданне зборніка С. Свірыдава. Яно — пра цяжкія і суровыя дні вайны 1941 года. Гэта быў толькі пачатак. Народ узняўся на святую барацьбу за сваю чалавечую годнасць, за родную краіну.

Аўтар знаёміць чытача з героямі кнігі, расказвае і аб сабе, нялёгкай працы ваеннага журналіста. Ёсць у творы адзін эпізод, які западае глыбока ў душу, хвалюе, непакоіць. Партызанскі рэпарцёр Фруза вяртаецца з задання і расказвае аб тым, што бачыла і чула:

«— Выйшла я з нашага сяла за ваколіцу. Іду, таварышы, па вызваленай ад ворага зямлі. Хіліцца мурожная траўка. Мо пад ветрыкам, а мо кланяецца нам, партызанам. Радуецца волі, смяецца залатым смехам малачай...

— Ты, Фруза, аб партызанах расказвай, а не аб мурожнай траве, — перапыняю яе.

— Не перашкаджай! — сурова гаворыць яна. — Таму партызаны і перамагаюць, што ім кожная пясчынка родная, кожная травінка памочнік... Эх ты, рэдактар! Збіў толькі мяне...»

Колькі шчырай лірыкі і ўзнёслага пачуцця ў гэтых словах.

Поўнасцю адпавядаюць дакументальнаму жанру апавяданні «Плач дзяцей», «Сын камісара», «Ганчар», «Маці», «Дачка». У апошнім, напрыклад, вельмі добра расказваецца, як родная маці, рызыкуючы сваім жыццём, не выдала немцам сваю дачку-партызанку.

Свае фарбы і інтанацыі знайшоў С. Свірыдаў у апавяданні «Плач дзяцей».

...Немцы даведаліся, што ўрач Мамонава была ў партызанскім атрадзе. Намер ворагаў адзін: выведаць яго месцазнаходжанне. Ганну Мікалаеўну страшна білі, катавалі. Яна заставалася непахіснай. Каты пайшлі на самае жудаснае. Яны вывелі жанчыну на двор і паказалі трое яе дачушак, закапаных па шыю ў зямлю:

«Не хвалюйцеся. Вашы дзеці тут забаўляюцца, — сказаў афіцэр.— Дзяўчынкі пакуль жывыя і здаровыя, але, калі вы не будзеце гаварыць, мы іх зусім закапаем...»

Жахлівыя падрабязнасці! Такое ніколі не забываецца. Яно заўсёды будзе стаяць у вачах: «Ні рук, ні ног, толькі белыя галоўкі тырчэлі з зямлі. Галоўкі плакалі...»

«Партызанскія былі» С. Свірыдава цікавыя сваім дакументалізмам.

Але хацелася б пагаварыць і пра майстэрства аўтара. На жаль, у творах не ўсё добра з мовай. З першых ужо старонак апавядання «Кліч партызана» (дарэчы, яно носіць падзагаловак «З дзённіка») на чытача павявае сухой аднастайнасцю фактаў, якія падаюцца пратакольна, без належнага адбору і апрацоўкі.

Кніга напісана на беларускай мове, але аўтар не заўсёды адчувае слова, улоўлівае моўную мелодыю, яго гучанне: «раздаецца прастуджаны голас», «узбіраецца на дрэва», **«хоць аб гэтым ніхто...»**, «ростам у сажань, але з адкрытымі прастадушнымі вачыма», **«лупку** немцам **наладзілі»**, «ад межаў маскоўскіх працягаў», «перапісваем на **ласкутах** паперы», «жанчына, кінуўшы **тапор»**, «з вачэй брызнулі слёзы», «голад даваў **аб сабе ведаць»** і г. д.

Дакументальная кніга Сяргея Свірыдава, — безумоўна, знойдзе свайго чытача. Хацелася б толькі пажадаць аўтару ў далейшым акуратней ставіцца да слова.

**І. ПАЎЛЮКОЎСКІ.**

С. Свірыдаў. «Загадкавы стрэл». Партызанскія былі. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1973.




бойцаў, аматараў рэваншызму і палітычных авантур.

Каб прыдаць большую пераканаўчасць і дакладнасць сваім вывадам, Ю. Гусеў уводзіць у тканіну меркаванняў выказванні зарубежных вучоных, публіцыстаў, мастакоў, а таксама савецкіх журналістаў-міжнароднікаў і дзеячоў культуры, якія сваімі вачамі бачылі капіталістычнае жыццё.

Колькі год назад Маркс пісаў, што «праклятая пара золата» забіла ў буржуа эстэтычнае пачуццё. Сапраўды прыгожае, тое, што робіць чалавека высакародным, яго даўно не цікавіць. Зараз у любым творы мастацтва ён хоча бачыць духоўную атруту і прыбытак.

Раскрываючы гэта, аўтар прыводзіць шматлікія факты і ў тым ліку дакумент, які сведчыць аб аграбленні гітлераўцамі ў гады вайны беларускага мастацкага музея, аб іх імкненні набыць мільёны марак за кошт духоўнага багацця нашага народа.

Змястоўным і пераканаўчым атрымаўся раздзел «Пакаранне за праўду, узнагарода за хлусню». У ім раскрываецца сутнасць «свабоды творчасці». На свежых матэрыялах, называючы прозвішчы шырока вядомых і маладых дзеячоў літаратуры і мастацтва, аўтар паказаў, што іх свабода, як і дзесяткі год назад, скрозь фальшывая.

З хваляваннем чытаеш аб пажары ў доме амерыканскага мастака Ракуэла Кента: помста за тое, што ён змагаецца за ідэі сацыялізму, што ён—лаўрэат Ленінскай прэміі «За ўмацаванне міру паміж народамі». Чаму забаронены «камуністычныя» песні грэчаскага кампазітара Мікіса Тэадаракіса? А што сталася з цудоўным голасам юнага італьянца Раберціна Ларэці? Які лёс напаткаў японскую кіназорку Фудзіка Ямамата, што давяло да самагубства 28-гадовую французскую кінаактрысу Ніколь Лядміраль?.. Вось яна, «абсалютная свабода творчасці» ў грамадстве, дзе ўсё ператварылася ў прадметы гандлю, дзе ўсё падпарадкавана інтарэсам буйных манаполій!

Некаторыя пісьменнікі не вытрымліваюць гэтай «свабоды»... Яны вымушаны ўцякаць ад яе і пакідаць сваю краіну. Пісьменнік з ФРГ Вальтэр Баўэр растлумачвае прычыны сваёй эміграцыі: «Я не магу больш дыхаць... У гэтай удушлівай атмасферы я не хацеў ператварыцца ў азлобленага старога літаратара, які піша на вецер».

Зыходзячы з марксісцка-ленінскай канцэпцыі свабоды, Ю. Гусеў прыводзіць чытача да правільнай думкі, што сапраўдная свабода творчасці неаддзельна ад свабоды ўсяго грамадства. І ў першую чаргу яна вызначаецца становішчам мастака ў грамадстве, якому ён служыць.

Апошні раздзел «Прагрэсіўнае мастацтва змагаецца» лагічна завяршае кнігу і аўтарскія разважанні. Ю. Гусеў з глыбокай павагай гаворыць пра тых, хто смела выступае супраць палітыкі мілітарызму і расізму, сацыяльнай несправядлівасці, духоўнага разбэшчвання. У першых шарэнгах ідуць французскі пісьменнік Андрэ Рэмакль, італьянскі мастак — камуніст Рэната Гутуза, заходнегерманскі паэт Райнер Хірш, мексіканскі мастак Давід Сікейрас, іспанскі кінарэжысёр Роберт Бадэгас і шмат іншых.

Цяпер барацьба ў сферы ідэй, культуры, маральных каштоўнасцей у буржуазным грамадстве ўзрастае, набываючы ўсё больш вострыя характар. Кніга расказвае аб гэтай барацьбе. Яна выхоўвае пачуццё гонару за нашу дзівосную краіну, за нашу сацыялістычную культуру. Мы цалкам пагаджаемся з аўтарам і далучаемся да яго слоў аб савецкім мастацтве: «Менавіта гэтаму мастацтву, гэтай культуры належыць будучыня».

**ЭДУАРД КАРНІЛОВІЧ,**
**кандыдат гістарычных навук.**

# А ЗАДУМА БЫЛА ЦІКАВАЙ...

А ПОВЕСЦЬ Маіны Бабарыка, безумоўна, зацікавіць юных чытачоў, як твор, у якім расказваецца пра справы школьнікаў, пра іх вучобу, будні. Дзецям вельмі цікава прачытаць пра сваіх аднагодкаў. Але ці не страчвае аўтар часам пачуццё меры, ці не пачынае яна гаварыць занадта прыгожа, ці не падмяняецца ў творы жыццё сённяшніх школьнікаў празмернай рамантызацыяй?

Сева Бублікаў і Васька Калошкін, неблагія ўвогуле хлапчукі з шостага «Б» класа, не вельмі любяць вучыцца. І хоць Сева, галоўны герой аповесці, «не считал себя законченным двоечником», усё ж яго паводзінамі і паспяховасцю цікавіцца агульнашкольны збор, бо хлопчык ён неарганізаваны, абяцае выпраўляць двойкі і не выпраўляе, замест таго, каб вучыць урокі, робіць планер і г. д. Так усё ідзе да таго часу, пакуль у школе не з'яўляецца новы настаўнік заалогіі Павел Паўлавіч. Першы ж урок, які ён дае дзецям, так далёка адыходзіць ад усіх мерак і ўяўленняў аб «сухой» заалогіі, такі цікавы і захапляючы, што ва ўсіх вучняў, у тым ліку і ў Севы Бублікава, абуджаецца інтарэс да прадмета. Праўда, ён крыху «перакошаны», гэты інтарэс — Сева накіроўваецца на балота, ловіць там з дзесятак шэрых барадаўчатых жаб і назаўтра высыпае іх у настаўніцкі стол.

І тут пачынаецца тое, чаму не верыш. Па-першае, ці лагічна было Севу чакаць перапалоху ад настаўніка, які з такім замілаваннем расказваў пра жаб на мінулым уроку?

Па-другое, штучнае апраўданне Севы пасля інцыдэнта: «Да я, может, специально за ними к дальнему болоту ходил! Личным выходным пожертвовал. Так сказать, для науки, для общей пользы», прадвырашае ўсё астатняе: знаёмства з жывым кутком на кватэры Паўла Паўлавіча, нараджэнне новага захаплення ў хлопчыкаў, любоў да заалогіі. І вось шчаслівы канец, той самы дзіўны «хэпі-энд» — хлопчыкі адразу перавыхоўваюцца, караюць Тольку Жука і яго сяброў, якія мучаць голуба, а ў завяршэнне Толька, таксама перавыхаваны, падчас летніх канікул, ахвяруючы жыццём, ратуе цялят з ахопленага агнём цялятніка.

Усё гэта падаецца прасталінейна, без пэўнага псіхалагічнага абгрунтавання.

У аповесці ёсць і такое, што нібыта і прываблівае юнага чытача: таямніца кватэры настаўніка — жывы куток, таямніца таварыства «ЮЗ» — «юныя заолагі» (дарэчы, надта падобнага на маўраўскае «ТВТ»), паказ школьных будняў. Але ёсць і недарэчнае, што, на нашу думку, не варта было б адрасаваць школьніку. Напрыклад, наўмысная падтасоўка паводзін дзяцей пад паводзіны дарослых. Гэтым, відаць, якраз і тлумачыцца казённа-бюракратычная мова герояў («на сборе общества «Юные зоологи» при стопроцентном голосовании было решено установить круглосуточное дежурство в живом уголке»). Або: як зразумець рэзанёрства аднэй са школьніц — Веры Шуцько, якая з кожнай нагоды «прыточвае» прыказку ці прымаўку («Гуляй, детина, — твоя година!») і г. д.

Увогуле, мова аповесці жадае лепшага: «Лицо его вытянулось, как баклажан, а глаза стали похожи на две коричневые пуговицы», «Сева сиял, как начищенный башмак» і г. д.

Аўтару, які ў дзіцячай літаратуры не навічок, трэба быць больш патрабавальным да сябе, пазбягаць яўнай штучнасці, надуманасці ў пабудове сюжэта твора.

**Т. НІКІЦІНА.**

М. Бабарыка. «За круглым акенцам». На рускай мове. Для дзяцей сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1972.

Артур
ВОЛЬСКІ



## КУПАЛЛЕ

Ля помніка паэту

*На волю ненадзейнай хвалі*
*дзяўчаты кідалі вянкі*
*і на бліжэйшае гадалі —*
*не на далейшыя вякі.*

*Дзівіўся месяц з сіняй далі,*
*нібыта певень са страхі,*
*як з плынню чыстаю сплывалі*
*усе згрызоты і грахі.*

*Такую сілу меў нібыта*
*у ноч купальскую струмень...*

*Хоць звычай той даўно забыты*
*і ноч асветлена, як дзень, —*

*не прапусці гаючай хвалі*
*і на ўзбярэжжу не засні.*
*Спазнаў Купала на Купаллі*
*глыбіні вечнай чысціні.*

*Паэт,*
*узняўшыся ў метале,*
*ідзе ў наступныя вякі.*
*І, як даўней, на волю хвалі*
*дзяўчаты кідаюць вянкі.*

*Якія кветкі ў спалучэннях*
*любоўна сплеценых вянкоў!*
*А мне*
*прыносіць ачышчэнне*
*струмень купалаўскіх радкоў.*

## ВЯСЕЛЬНЫ КАРТЭЖ НА ПЛОШЧЫ ПЕРАМОГІ

*Тут —*
*у вайну —*
*прайшлі дарогі*
*на Захад*
*з усяе Русі.*

*Ляціць да Плошчы Перамогі*
*картэж — пайтузіна таксі.*

*Ужо кладзецца Шляхам Млечным*
*асфальт пад ногі маладых.*
*Агонь,*
*што мы назвалі вечным,*
*чібы жар-птушка,*
*вабіць іх.*

*Але не ім спявае ранак.*
*Ён прысвячае тым свой спеў,*
*хто не вярнуўся да каханых*
*ці закахацца не паспеў,*

*па кім дагэтуль жонкі плачуць*
*у скрусе вечнай і святой,*
*хто не пабачыў і не ўбачыць*
*дачку пад шлюбнаю фатой*

*ці сына ў чорным гарнітуры*
*за шклом таксі, як у акне,*
*па кім жалобныя хаўтуры*
*вятры спраўлялі на вайне.*

*Прабачце мне,*
*сябры былыя,—*
*раптоўных слёз не адганю.*
*Пяро жар-птушкі*
*маладыя*
*бяруць ад вечнага агню.*

## РАНІЦА ТУМАНІЦЦА

*Сёння раніца туманіцца*
*ад маёй, відаць, тугі.*
*Што рабіць, калі прыглянецца*
*нехта ёй зусім другі?*

*Як пайшла яна да веснічак*
*па сцяжынцы праз лужок,*
*следам плыў за ёю месячык,*
*бы сярэбраны ражок.*

*Я таксама ўслед хацеў ісці,*
*каб праводзіць да канца.*
*Але тут — напэўна з рэўнасці —*
*ён у хмарку даў нырца.*

*Ухапіць бы гэты месячык,*
*запрэць ды загусці.*
*Толькі ў цемрадзі да веснічак*
*сцежку я не змог знайсці.*

*І ўсю ноч блукаў самотны я,*
*пыл збіваючы з травы.*
*Думкі сумныя, маркотныя*
*не выходзяць з галавы.*

*А матуля пасміхаецца:*
*— Не хадзі, нібыта цень.*
*Калі раніца*
*туманіцца,*
*значыць, будзе ясны дзень.*

## РУБЯЖЫ

Перадюбілейнае

*Не!*
*Гэта проста як грабеж.*
*Жыццё гады ў мяне скрадае.*
*Вось і яшчэ адзін рубеж*
*амаль без бою пакідаю.*

*А колькі гэткіх рубяжоў*
*нарыхтавана мне ў запасе?*

*Ізноў з чародкаю стрыжоў*
*у вырай восень падалася.*

*Вясною вернуцца стрыжы.*
*Гады ляцяць — каб не вяртацца.*
*Мне б на чарговым рубяжы*
*гадоў на дваццаць акапацца!*

*Каб пад гамонку капяжоў*
*вярнуцца ў веснюю алею,*
*каб шмат нязданых рубяжоў*
*было яшчэ да юбілею.*

*І ты мне шэпчаш:*
*— Не бяжы!*
*Не аддавай рубеж без бою.*
*Як на апошнім рубяжы*
*мы развітаемся з табою?..*

*За годам год жыццё грабе,*
*Але —*
*з упартасцю салдата —*
*цвярджу нястомна сам сабе,*
*што кожны год —*
*рубеж узяты!*

## ЧЫРВОНЫ ГАЛЬШТУК

*Чырвоны гальштук зноў павязан*
*на грудзі мне.*
*І я лічу,*
*што я нанова абавязан*
*вучыцца жыць па Ільічу.*

*Узросту груз ураз паменеў.*
*Зіма змянілася вясной.*
*І пераемнасць пакаленняў*
*увачавідкі —*
*прада мной.*

*Хлапчук,*
*што звіў вузлом трывалым*
*агонь шаўковы,*
*каб не згас,*
*мне здаўся не па ўзросце сталым,*
*як той важаты*
*ў іншы час.*

*Вось ён ідзе,*
*урачысты гэткі,—*
*а барабаны — як званы! —*
*нібыта нашы аднагодкі*
*усе*
*вярнуліся з вайны.*

*У непаўторную мінуту*
*з'явіўся ён праз дым гадоў.*
*Далонь узняўшы для салюта,*
*прамовіў я:*
*— Заўжды гатоў!..*

— НА ПАЛЯЎНІЧАГА і звер бяжыць,— крыкнуў Мікіта.— Стараста казаў, што ты едзеш?

Паліцай трымаў рукі ў кішэнях. Сцяпан насцярожыўся, наблізіўся да яго, стаў упрытык і ціха сказаў:

— Дзяк — партызан!

— Што!? — Мікіта вылупіўся на Сцяпана і было прыкметна, што ён ледзь стрымлівае смех.

— Ён ведае, што партызаны выкрылі Кузьму.

Гэты ход здаваўся Сцяпану вельмі ўдалым. Яму падумалася: чаму не атрымаць самы пераканаўчы доказ пра асобу дзяка? А хто мог лепш за начальніка мясцовай паліцыі ведаць тутэйшых людзей? Мікіта, сам таго не жадаючы, даў гэты адказ. Сцяпан радаваўся і не здагадваўся,



Уладзімір
ШЫЦІК

# МЕСЦА СУСТРЭЧЫ МЯНЯЕЦЦА

**Новая аповесць Уладзіміра Шыціка прысвечана барацьбе народных мсціўцаў. Герой аповесці, малады партызан, былы пагранічнік Сцяпан Пятроўскі атрымлівае важнае заданне. Пад выглядам камерсанта Сцяпан прыязджае ў пасёлак.**



што паставіў сябе ў надзвычай небяспечнае становішча. Але гэта ён зразумеў пазней, калі ўжо нічога не мог змяніць.

— Глупства,— адмахнуўся Мікіта,— мы тут самі разбяромся, хто і што ведае. А ты мне патрэбны па сяброўскай справе. Выручы. Аддам, не бойся.

Сцяпан зірнуў на паліцая — апухлага, пасінелага і працягнуў грошы. Не лічачы, паліцай сунуў іх у кішэню.

— А ты добры хлопец,— ажывіўся ён,— за гэта я адкрыю табе важны сакрэт. Глядзі — нікому, а то...— ён крутануў пальцамі вакол шыі. — Хутка будзе рэквізіцыя, абяруць сялян. Не паспееш спагнаць сваё — плакалі твае грошыкі.

— Ты сапраўдны сябар, Мікіта,— Сцяпан надаў сваяму голасу шчырасць.

Яны развіталіся. Да Любаміра ісці яшчэ было рана, трэба было счакаць хаця б гадзіну. Бо Валодзя павінен быў прыйсці на месца сустрэчы толькі пад вечар. І Сцяпан пабрыў па вуліцы, збіраючыся за гэты час прадумаць, як лепш загяршыць аперацыю. Няблага было б прыціснуць і Мікіту, калі ён не схлусіў пра рэквізіцыю. Немцы балбатлівасці не даруюць. Мікіта гэта ведае. Але Мікіта пачакае, толькі вось трэба перадаць Леплю, каб папярэдзіў сялян. А на першым плане — Любамір, ці як яго па самай справе.

Сцяпан меркаваў проста: дзяк не здагадваецца, што выкрыты, таму паверыць, быццам Сцяпан гаворыць з ім шчыра, адкрыта. А паверыўшы, якраз і трапіць у сілок.

Калі Сцяпан пастукаў у дзверы дзякавай хаціны, ён ужо меў выгляд вясёлага і бесклапотнага хлопца.

Любамір, наадварот, быў пахмуры, не надта ветліва буркнуў у адказ на прывітанне. Яго нібы грызла нешта.

Сцяпан здзівіўся. Паводле яго разлікаў, дзяк павінен быў сустрэць яго нават больш прыязна,

чым учора. Ён нерашуча спыніўся на парозе, ніякавата спытаў:

— Я не ў час?

Дзяк узняў вочы. Але нібы не бачыў нікога. Вочы сёння ў яго былі бляклыя. І раптам у іх бліснула іскрынка. І вось, як і ўчора, зноў гасцінны і абыходлівы гаспадар. І ўсё ж іншы. Больш стрыманы, ці што?

Пакуль Сцяпан ламаў над усім гэтым галаву, на стале з'явілася сала, каўбаса, яйкі, тварог, пляшка шнапсу.

— Пост скончыўся ці парафіяне расшчодрыліся? — весела пацікавіўся Сцяпан.

— Знак асаблівай сімпатыі да вас,— без усмешкі адказаў Любамір, падсоўваючы лаўку да козлаў. — Наліць?

— Чаму вы пытаеце? — здзівіўся зноў Сцяпан. Ён ніяк не мог зразумець, што за ўсім гэтым тоіцца.

— Мне здаецца, вы з тых, хто любіць гаварыць на цвярозую галаву. Ці не так?

— Гледзячы аб чым,—няпэўна працягнуў Сцяпан, думаючы, што яго праціўнік, мабыць, не паспеў падрыхтавацца да размовы і таму бярэ з ходу быка за рогі.

Ён не памыліўся, хаця і не мог здагадвацца пра сапраўдную прычыну.

Любамір не паспеў падрыхтавацца, карты паблытаў усё той жа Мікіта. Ён заскочыў да дзяка, балазе, самагонку побач браў, літаральна перад Сцяпанам і, смеючыся, расказаў пра Сцяпанаву заяву. Мікіта таксама не ведаў, хто такі на самай справе Любамір. Аднак лічыў яго сваім, бо яшчэ зімой, калі ён быў сунуўся з даносам на дзяка, высокае начальства загадала трымаць язык за зубамі.

Паведамленне паліцая для Любаміра рэзка мяняла становішча. Адна справа весці, як ён збіраўся, гульню з праціўнікам, які нічога не падазрае, і зусім іншае, калі гэтай гульні хоча сам праціўнік.

— Сын мой, ісціна адна,— дзяк сказаў гэта так пакорліва, адно толькі рукі не склаў на грудзях, як на малітве.

— У наш век, святы Любамір,— Сцяпан пайшоў яму насустрач, — людзі забыліся на гэту запаведзь.

Дзяк зрабіў выгляд, што задумаўся. Памаўчаўшы, прамовіў:

— Маладосць заўсёды катэгарычная. Але ўсё ў руцэ божай, як сцвярджае мой бацюшка. І я не ісціну шукаю ў віне. Віно памагае мне працей глядзець на жыццё, быць цярпімым.

— Мы адхіляемся ад тэмы, святы Любамір,— паспрабаваў Сцяпан вярнуць размову ў ранейшае рэчышча.—Не люблю багаслоўскіх дыспутаў.

Дзяк уважліва зірнуў на Сцяпана, адсунуў поўную шклянку, сказаў:

— У вас багаты для камерсанта слоўнік, пан... э-э, Пятроўскі. Але я не пытаю, кім вы былі раней, вайна памяняла людскія прафесіі. Дык пра што мы надоечы гаварылі? Золата? Дык вось, золата не згубіцца і ў смецці, сын мой. Так, прынамсі, сцвярджаюць разумныя людзі. Я слухаю.

Цяпер задумаўся Сцяпан. Ці правільна ён робіць, падстаўляючы сябе пад удар? Можа, не рабіць спробы прывесці дзяка ў лагер, а проста выхапіць наган і знішчыць як смярдзючага гада? Урэшце, гэта таксама будзе справядліва... Сцяпан аж уздыхнуў, так свярбелі рукі. Не, трэба ўсё ж трымацца ранейшага плана. І Сцяпан, пільна ўзіраючыся ў твар дзяка, ужо не хаваючы, хто ён на самай справе, сказаў:

— Пасля здрады Цярэні ў нас тут няма надзейнага чалавека...

— Навошта вы мне гэта кажаце? — Любаміру здалося, што ён здагадаўся пра намеры свайго субяседніка. Паліцай Мікіта даў яму неабходны доказ. Зараз трэба толькі не прыспешваць. — Я служу богу. Вашы зямныя справы мяне не датычаць, сын мой.

— Значыць, для вас гэта не навіна?—Сцяпан чакаў хітрэйшых хадоў і таму шчыра здзівіўся.

Дзяк заўважыў гэта і ўзрадаваўся: усё ішло так, як ён разлічваў. Можна было рабіць наступны крок.

— Спадзяюся, вы не будзеце рабіць мне прапанову, каб я замяніў вашага няўдалага агента? — спытаў ён.— Я не прывык служыць двум панам.

Ён мог дазволіць сабе гэту двухсэнсоўнасць. Ён адчуваў сваю перавагу.

— Іменна,— падцвердзіў Сцяпан,— у такі час нельга быць збоку. Вам немцы прынеслі шмат гора, я чуў ад людзей.

— А потым вы павесіце мяне, як свайго Цярэню? Дзякую,—дзяк адмоўна пакруціў галавой.

— Цярэня здрадзіў...

— Яго выдала ваша, я маю на ўвазе партызан, а не вас асабіста, неасцярожнасць. Немцам нічога не заставалася, як прыбраць яго да рук.

— У вас зайздросная дасведчанасць,— не стрымаўся Сцяпан.

— Мы суседзі.

— Такія рэчы не расказваюць нават сябрам.— Сцяпан трапіў яшчэ ў адну пастку, пацвердзіўшы гэтымі словамі, што ведае і суседзяў, і сяброў Цярэні і, такім чынам, на Любаміра выйшаў не выпадкова. І гэта толькі пацешыла дзяка.

— Усякія сябры бываюць,— усміхнуўся ён.

Сцяпан яшчэ больш напружыўся, пакутліва стараючыся зразумець, што дазваляе дзяку паводзіць сябе так спакойна.

— Мы вучымся барацьбе, — сказаў ён прымірэнча, — але мы добрыя вучні. Двойчы адну і тую памылку не робім.

— Я зразумеў, сын мой. Ты гарантуеш мне бяспеку. А немцы?

— Вайна ёсць вайна, пан Любамір. На вайне, здарасцца, і сляпая куля забівае, як гэта ні прыкра. Але вас я таксама зразумеў. Лічыце, што нашай прапановы не было.— А сам зноў падумаў, ці не прыйшоў час пусціць у ход зброю? Дзяк вельмі асцярожны, у лес не пойдзе.

— Маладосць, маладосць,— зноў здзівіў яго дзяк нечаканым ходам,— у вашым узросце рашэнні прымаюцца без роздуму. А чалавек на другой палавіне жыццёвага шляху сем разоў памерае, перш чым сказаць: «Я — згодзен».

Сцяпан недаверліва глядзеў на Любаміра: што хаваецца за яго рашэннем, няўжо верыць, што натрапіў яшчэ на аднаго разяву?

Дзяк, згадзіўшыся, не прыспешваў Сцяпана, даваў яму час разабрацца ў сітуацыі. І гэта таксама быў элемент той гульні, якую ён дазволіў сабе сёння.

— Я павінен вам сказаць, што сваім памочнікам мы давяраем,— Сцяпан гаварыў гэта, не падымаючы вачэй, злуючыся і на сябе, і на яго, што вымушаны гаварыць не тое, што хацелася.

— І як далёка ідзе ваш давер? — у голасе Любаміра быццам ужо не чулася насмешкі.

Але Сцяпан чамусьці быў упэўнены, што ён глядзіць з'едліва, са знявагай. Каб хутчэй скончыць з гэтай, непрыемнай яму сцэнай, сказаў:

— Я павінен паказаць вам месца, дзе вы будзеце пакідаць для нас паведамленні, а мы — для вас.

— Аб чым?

— Пасёлак побач з горадам, а горад нас больш за ўсё цікавіць. Бачыце, ёсць пра што паведамляць. А больш канкрэтныя заданні будзе даваць камандаванне, калі вы, вядома, не адмовіцеся ад супрацоўніцтва.

Пры іншых абставінах Любамір, магчыма, ухапіўся б за гэту прапанову. Заўладаць, нават часова, партызанскай «паштовай скрынкай» — вялікая ўдача. Аднак зараз ён ведаў, што выкрыты, што ўся гэтая «прапанова» — блеф, гульня, якая хутчэй за ўсё мае мэтай зацягнуць яго ў лес. Ён не любіў неапраўданай рызыкі, але не прывык і адступаць. Любамір вырашыў, што пойдзе ў лес, бо не такому малакасосу ваяваць з ім...

— Ты са зброяй, сын мой? — нібы паміж іншым, спытаў ён.

Сцяпан выцягнуў наган, сказаў:

— Тут пяць куль.

— Не багата,— паспачуваў дзяк,— і я табе нічым не памагу,— ён вывернуў кішэні, поўныя нейкай трухі. Ён не баяўся, падкрэсліваў, што бяззбройны, каб прытупіць пільнасць праціўніка, упэўнены, што сам-насам лёгка з ім справіцца. Тапкляві, з выгляду кволы партызанскі «камерсант» побач з ім—каржакаватым, плячыстым — выглядаў слабаком.

— Можам зараз ісці, калі ў вас няма больш пільнай справы,— стрымліваючы хваляванне, прапанаваў Сцяпан. Не думалася, што дзяк так хутка згодзіцца. Нават было крыху дзіўна, узнікла расчараванне — фінал аперацыі абяцаў прайсці вельмі лёгка.

— А калі трохі пазней? — Любамір вырашыў праверыць, ці не дамовіўся яго праціўнік, каб іх чакалі ў лесе.

— Як хочаце. А я дык ужо развітаўся з гаспадаром.

Дзяк зірнуў на гадзіннік, быццам нешта прыкінуў, і устаў.

Яны пайшлі ў бок горада. На развілцы, дзе ад грунтовага гасцінца адгаліноўвалася палявая дарога, дзяк раптам спыніўся.

— Дзе тое дупло? — спытаў ён.

Сцяпан прызначыў Валодзю месца сустрэчы паблізу Воўчага логу, на схіле якога рос стары дуб-волат. Пра гэты дуб і сказаў ён зараз Любаміру. Адказ Любаміра ашаламіў Сцяпана.

— Э-э, самае грыбное месца. Туды сёння ўланаўскія бабы пайшлі. А мне, сын мой, рэклама аб блізкім знаёмстве нават з панам Пятроўскім,— зрабіў ён націск на прозвішча,— славы не прынясе.

— То як жа? — Сцяпан не здолеў схаваць разгубленасці.

— Нездарма ж я тут з зімы жыву,— задаволена прамовіў Любамір, — да логу падыдзем з другога боку. Там таксама ёсць дуплаватыя дрэвы. А вашым хлопцам потым нават больш зручна будзе.

Зноў Сцяпан адчуў, што застаўся ў дурнях. Да месца, названага дзякам, партызанам з лагера сапраўды працей дабірацца. Не трэба пераходзіць цераз шырокі і глыбокі лог, які ў дажджы і завеі рабіўся непраходны. Хто-хто, а ён, Сцяпан, павінен быў помніць гэта. Ды забыўся, узрадаваўся, што перахітрыў фашыста. І вось зараз ужо не можа паведаміць Валодзю, што месца сустрэчы мяняецца.

— А вунь і нашы дубы,— Любамір адкінуў цыгарэту, спыніўся, прыжмурыўшыся паглядзеў на Сцяпана,— далей можна не тупаць. Абутак зараз вялікія грошы каштуе, а дупло там адно.

— Першае заданне,— пачаў быў Сцяпан, каб выйграць час.

Любамір перабіў яго:

— Ці не хопіць? Мы не дзеці, паважаны пан-таварыш. Ты добра ведаеш, хто я, а я — хто ты. Я ж не той дурань Мікіта, да якога ты палез са сваімі хітрыкамі. Стой, не перабівай. У цябе зараз толькі адна магчымасць пайсці адсюль жывым — калі ты, менавіта ты, а не я, будзеш супрацоўнічаць з намі. Зразумеў?

— Чаго тут, усё ясна, пан Ігнась Прыбыткоўскі! — Сцяпан сказаў гэта проста так, на ўсякі выпадак, каб праверыць, бо быў не зусім упэўнены, што так яно і ёсць.

І Любамір, сцяміўшы, што партызаны вельмі глыбока праніклі ў яго таямніцу, кінуўся на Сцяпана. Ён быў упэўнены, што лёгка адолее гэтага нягеглага хлопца. Адкуль ён мог ведаць, што перад ім былы пагранічнік?

...Праз нейкі час Сцяпан скруціў дзяку рукі і павярнуў яго тварам да зямлі.

# ЯНКА ШАРАХОЎСКІ



6 красавіка раптоўна памёр вядомы беларускі пісьменнік, член КПСС з 1944 года Янка (Іван Захаравіч) Шарахоўскі.

І. З. Шарахоўскі нарадзіўся ў 1908 годзе ў пасёлку Бялынічы Магілёўскай вобласці ў сялянскай сям'і. Пасля заканчэння ў 1931 годзе Ленінградскага гісторыка - лінгвістычнага інстытута працаваў у рэдакцыях часопісаў «Чырвоная Беларусь», «Полымя», газеты «Літаратура і мастацтва». Пазней вучыўся ў аспірантуры пры Мінскім педагагічным інстытуце імя М. Горкага.

У гады Вялікай Айчыннай вайны быў камандзірам узвода, ваенным журналістам. Удзельнічаў у баях пад Масквой, на Бранскім, 2-м Прыбалтыйскім, Ленінградскім франтах. Пасля вайны працаваў адказным сакратаром рэдакцыі часопіса «Полымя», галоўным рэдактарам Дзяржаўнага выдавецтва БССР, намеснікам міністра культуры БССР, рэдактарам газеты «Літаратура і мастацтва», дырэктарам Літаратурнага музея Янкі Купалы.

Янка Шарахоўскі — аўтар навуковай біяграфіі Янкі Купалы, артыкулаў і крытыка-біяграфічных нарысаў пра творчасць В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча, Я. Купалы, В. Таўлая.

Выдаў таксама кнігі апавяданняў «Срэбраная раніца» і «Сердалікавая бухта». На яго творчым рахунку пераклады на беларускую мову шэрагу твораў рускай класічнай і савецкай літаратуры.

Савецкі ўрад высока ацаніў заслугі І. З. Шарахоўскага перад Радзімай. Ён узнагароджаны двума ордэнамі «Знак Пашаны» і медалямі.

І. З. Шарахоўскі быў прынцыповым чалавекам, чулым таварышам.

Светлы вобраз Івана Захаравіча назаўсёды застанецца ў сэрцах сяброў і ўсіх, хто яго ведаў.

**Праўленне Саюза пісьменнікаў БССР.**
**Міністэрства культуры БССР.**

# Бывай, дарагі Іван Захаравіч!

Раптоўна памёр Іван Захаравіч Шарахоўскі. Цяжка паверыць у гэту страту. Менавіта таму, што ён моцна любіў жыццё, упэўнена крочыў па яго дарогах.

Я сустрэўся з Іванам Захаравічам пасля вайны. Мне спадабаўся ён сваёй моцнай ураўнаважанай натурай, няспешлівасцю, шчырасцю. Гэтыя чалавечыя якасці вылучалі яго сярод іншых, пры сустрэчах з ім можна было аб многім пагаманіць, параіцца.

Помню, будучы галоўным рэдактарам Дзяржаўнага выдавецтва БССР, ён прачытаў маю аповесць «Лета ў Калінаўцы». Іван Захаравіч вельмі добразычліва паставіўся да твора, даў шмат карысных заўваг і парад. Гэткім жа справядлівым суддзёй ён быў і для іншых маладзейшых літаратараў.

Мы з цікавасцю чакалі яго слова ў друку. Іван Захаравіч плённа працаваў, пісаў апавяданні, артыкулы, рэцэнзіі. Яго слова ў крытыцы было па-партыйнаму строгім, грунтоўным. У сваіх празаічных творах ён стварыў запамінальныя характары сучаснікаў, пераканаўча паказаў праўду жыцця, барацьбу савецкіх людзей за шчасце і мір.

Іван Захаравіч Шарахоўскі шмат перакладаў на беларускую мову. Ён пераклаў «Рудзіна» і «Напярэдадні» І. Тургенева, «Казкі» М. Салтыкова-Шчадрына, «Сляпога музыку» Ул. Караленкі, «Аповесць аб дзяцінстве» Ф. Гладкова, «Белую бярозу» М. Бубённава, «Чэсць змоладу» А. Первенцава і іншыя.

Некалькі гадоў Іван Захаравіч працаваў намеснікам міністра культуры БССР. І на гэтым участку работы ён быў прыкметным, дзелавітым працаўніком, карыстаўся заслужаным аўтарытэтам.

Пройдзены шляхі-дарогі... Ён бачыў вайну, быў страявым камандзірам, а потым ваенным журналістам. Ён радаваўся нашай вялікай перамозе, разам з родным народам будаваў новае шчаслівае жыццё.

Мы стаім над труной у журбоце і вялікім засмучэнні. Плывуць акорды жалобнага маршу. Мы развітваемся з салдатам, журналістам, крытыкам. Добра паслужыў ён роднай літаратуры, людзям, Савецкай Радзіме.

Бывай, дарагі Іван Захаравіч! Твой светлы вобраз навек застанецца ў нашых сэрцах.

**Мікола ГАМОЛКА.**

# НОВЫЯ НАЗВЫ НА АФІШАХ



Акадэмічны тэатр оперы і балета БССР паказаў прэм'еру балета «Бахчысарайскі фантан» Б. Асаф'ева (лібрэта М. Волкава па паэме А. Пушкіна). Кампазіцыя і пастаноўка народнага артыста СССР Р. Захарава, супастаноўшчыкі — заслужаная артыстка РСФСР Н. Стуколкіна і В. Захараў. Дырыжыруе спектаклем народная артыстка БССР Т. Каламійцава. Дэкарацыі і касцюмы зроблены па эскізах мастака Я. Ждана.

На здымку—сцэна са спектакля. У партыях: Марыі — народная артыстка БССР Н. Давыдзенка, Вацлава — заслужаны артыст БССР Я. Паўловіч.



Аперэту «Пацалунак Чаніты» Ю. Мілюціна паставіў Дзяржаўны тэатр музычнай камедыі БССР. Рэжысёр-пастаноўшчык спектакля Э. Карсакоў, дырыжор — Н. Фоцін, мастацкае афармленне А. Марозава.

Фота Ул. КРУКА.

## ТРЫЦЦАЦЬ РОЛЕЙ СПЕВАКА

Сцэнічнае ўвасабленне вобраза князя Ігара ў бессмяротнай оперы Барадзіна было для маладога спевака Анатоля Генералава важным творчым этапам. Вось чаму іменна гэту оперу выбраў народны артыст БССР А. М. Генералаў для сваёй творчай справаздачы, якая адбылася ў Дзяржаўным тэатры оперы і балета БССР.

Перад пачаткам спектакля галоўны рэжысёр тэатра — заслужаны дзеяч мастацтваў БССР, заслужаны артыст РСФСР А. М. Дадзішкіліяні пазнаёміў гледачоў з творчай біяграфіяй Генералава.

Выпускнік Маскоўскага інстытута імя Гнесіных, ён ужо 19 гадоў спявае на беларускай сцэне. Рыгалета, Фігара, Дэман — усе барытанальныя партыі рэпертуару тэатра, а іх каля трыццаці, спявае Анатоль Генералаў.

Упершыню мінчане ўбачылі і пачулі маладога акцёра ў оперы беларускага кампазітара Цікоцкага «Дзяўчына з Палесся». Партыя Апанаса захапіла спевака героікай і маладычнасцю.

Кожны створаны вобраз дарагі акцёру. Але ні з чым не параўнаць пачуцці, якія зведвае Анатоль Міхайлавіч, калі ўдзельнічае ў оперы Мурадэлі «Кастрычнік».

— Стварыць на сцэне вобраз вялікага Леніна—правадыра і самага чалавечнага чалавека — надзвычай цяжка,— сказаў ён карэспандэнту БЕЛТА. — Я шчаслівы, што мне даверылі гэту партыю.

Да кожнай новай ролі спявак рыхтуецца сур'ёзна, удумліва. Цяпер ён працуе над вобразам Альфіо ў аднаактовай оперы Масканьі «Сельскі гонар». Зусім нядаўна мінчане пазнаёміліся з Генералавым у «Пікавай даме» Чайкоўскага, дзе ён спявaў партыю Томскага, і з яго Чалхіем у оперы грузінскага кампазітара Тактакішвілі «Міндзія».

Аднаму з вядучых салістаў Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР А. М. Генералаву апладзіравалі гледачы Польшчы, Балгарыі і Румыніі, дзе ён прадстаўляў беларускае мастацтва.

БЕЛТА.

## ПРЭМ'ЕРЫ КОЛАСАЎЦАЎ

У ВІЦЕБСКУ адбылося чарговае выязное пасяджэнне прэзідыума праўлення Беларускага тэатральнага аб'яднання. Дзяржаўны драматычны тэатр імя Якуба Коласа пазнаёміў яго ўдзельнікаў з чатырма новымі спектаклямі.

Народная артыстка СССР Л. Александроўская, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР Ул. Стэльмах, доктар мастацтвазнаўства Ул. Няфёд, кандыдаты мастацтвазнаўства А. Бутакоў, А. Лабовіч, А. Сабалеўскі і крытык Ю. Сохар сустрэліся з творчым калектывам і разам з рэжысурай і артыстамі абмеркавалі «Багну» А. Астроўскага, «Доктара філасофіі» Б. Нушыча, «Таблетку пад язык» А. Макаёнка і «Цудоўныя пярсцёнкі Альманзора» Г. Габе. Прамоўцы далі абгрунтаваны аналіз ідэйна-мастацкіх якасцей спектакляў, разгледзелі работы рэжысёраў і мастакоў, падрабязна гаварылі пра сцэнічныя вобразы, створаныя вопытнымі майстрамі і артыстычнай моладдзю трупы коласаўцаў.

Ад тэатра слова ў дыскусіі бралі галоўны рэжысёр лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР С. Казіміроўскі, народны артыст БССР Ф. Шмакаў, дырэктар тэатра заслужаны дзеяч культуры БССР Г. Асвяцінскі і артыст А. Кацельнікаў.

## НА ЧАРГОВЫМ СПЕКТАКЛІ

*73-е прадстаўленне аперэты «Сільва» ў Дзяржаўным тэатры музычнай камедыі БССР*

МАЙСТЭРСТВА тэатральнага калектыву, скажам больш, яго мастацкая сталасць вызначаецца не толькі колькасцю і якасцю прэм'ер, якія ён здольны ажыццявіць за сезон, але і тым, ці здольная трупа зберагчы свае спектаклі так, каб не губляліся вартасці кожнага з іх, каб чарговы паказ пастаноўкі захаваў узнёсласць, святочнасць першай сустрэчы аўтараў і выканаўцаў з гледачамі.

У пачатку мінулага года мне давялося пісаць пра пастаноўку «Сільвы» ў нашым тэатры музычнай камедыі. Прэм'ера наогул паказала, што гэты калектыў можа цікава інтэрпрэтаваць класічную аперэтачную спадчыну. Праўда, яна выклікала і жаданне ў чымсьці паспрачацца з рэжысурай, параіць выканаўцам пазбавіцца ад пралікаў артыстычнага плана.

З таго часу «Сільва» пад музычным кіраўніцтвам дырыжора Г. Хананьева была паказана на нашай сцэне некалькі дзесяткаў разоў. Цікава зноў сустрэцца са спектаклем, каб паглядзець, як склалася яго «жыццё», як сталее трупа тэатра. Гэтымі ўражаннямі паспрабуем тут падзяліцца.

Прыемна ўжо тое, што не знікла маляўнічасць пастаноўкі, як гэта, на жаль, бывае з цягам часу. Няма тут замаруджанасці падзей, страты ранейшага тэмпу, неахайнасці манціровачнага парадку, выканаўчай абыякавасці. Я сказаў бы нават, што адбыліся некаторыя карысныя змены ў спектаклі за кошт уключэння ў яго новых выканаўцаў.

Калі ж гаварыць пра ўсё гэта больш канкрэтна, дык адзначым адразу поспех В. Мазур — Сільвы і Ю. Баратава — Эдвіна. У параўнанні з першымі выканаўцамі гэтых ролей у спектаклі яны паакцёрску больш шчырыя, пластычныя і дасканалыя ў сцэнічных паводзінах.

Задавальняе і вакальнае выкананне партый. Галасы гучаць чыста, інтанацыйна дакладна. Абодва артысты лёгка пераходзяць ад спеву да гаворкі і наадварот. А гэта звычайна дасцца цяжка аперэтачным вакалістам.

Звяртае на сябе ўвагу прыгожы, цёплы тэмбр голасу В. Мазур, яе добрае адчуванне акцёрскага і музычнага ансамблю, сувязь з партнёрамі па сцэне.

Больш барытанальны, чым тэнаровы тэмбр голасу Ю. Баратава робіць яго героя, магчыма, не такім «бліскучым» закаханым, але надае Эдвіну чалавечую пранікнёнасць.

Хочацца адно параіць В. Мазур—удасканаліць гучанне голасу ў ніжнім рэгістры, дамагчыся дыкцыйнай яснасці ў асобных драматычных эпізодах, вызваліцца ў іх ад паспешлівасці. А вось Ю. Баратаву варта разам з мастаком спектакля пераглядзець грым, малюнак цывільнага касцюма (афіцэрскі — больш удалы) і прычоску. Знешні выгляд не адпавядае пакуль што фактурным дадзеным выканаўцы.

Прыемнай для гледачоў стала сустрэча і з Т. Брагінай — Ангільтай і С. Муратавай — Стасі. Выканаўцы гэтых партый у мінскай «Сільве» добра адчуваюць характары сваіх гераінь і вельмі непасрэдна раскрываюць іх. З сапраўдным бляскам і майстэрствам праводзіць Т. Брагіна сцэну з А. Прыходзькам — дырэктарам кабарэ Феры ў апошняй дзеі спектакля. Вельмі яркая, уражлівая С. Муратава — Стасі ў дуэтах з Ю. Баратавым — Эдвінам і В. Фаменкам — Боні.

Да здабыткаў 73-га спектакля «Сільвы», пастаўленага на нашай

АКЦЁРЫ І РОЛІ

## ...І КАЗАЧНІК ЧАРОЎНЫ

Гэтага артыста, бывае, сталыя гледачы з малечы і пазнаюць адразу. Бо для дасціпных хлопчыкаў не бывае таямніц і тады, калі тэатр штосьці хавае — пад грымам і касцюмамі, у дзівосных спалучэннях святла і фарбаў. Здараецца, толькі ён з'явіцца на сцэне, як у зале прагучыць гарэзлівы голас з партэра: «Гэта — Міхайлаў...» І ёсць звычайна ў такой «рэпліцы» штосьці ад павагі да артыста, ад веры ў яго надзейны творчы почырк...

А выпрацоўваўся ён, гэты артыстычны почырк, гадамі. Скончыўшы інстытут сцэнічнага мастацтва ў Ленінградзе, Леў Пракопавіч выступаў у Беларускім ТРАМе, быў акцёрам Другога БДТ (цяпер тэатр імя Якуба Коласа), у трупе якога пад уплывам А. Ільінскага, П. Малчанава, Ц. Сяргейчыка фарміравалася яго індывідуальнасць. Мабыць, самым каштоўным урокам акцёрскага майстэрства для Л. Міхайлава была роля салдата Мелеха ў драме П. Глебкі «Над Бярозай-ракой». Рэпеціраваў яе малады тады артыст па чарзе з Аляксандрам Ільінскім, прыглядаўся да старэйшага таварыша, вучыўся і шукаў свой адметны вобраз. Здарылася так, што з-за хваробы першага выканаўцы на прэм'еры давялося быць салдатам Мелехам Л. Міхайлаву. Дэбют быў вельмі ўдалы, і Аляксандр Канстанцінавіч папрасіў кіраўніцтва тэатра замацаваць ролю за маладым калегам.



Л. Міхайлаў у спектаклі «Несцерка».

У трупу Рэспубліканскага тэатра юнага гледача, які быў нанава створаны пасля вайны вядомым рэжысёрам Л. Мазалеўскай, ён уступіў сталым артыстам, маючы багаты вопыт, набыўшы веды і пэўны ўзровень майстэрства. Ролі, ролі... І, зразумела, казачныя персанажы. Тут трэба мець спецыфічныя здольнасці: іграць так, нібы твой «герой» сыходзіць са старонак вядомых або, наадварот, яшчэ незнаёмых дзецям казак. А дзеці па-свойму «малююць» у думках рысы і аблічча такіх персанажаў, і тое, што прапануе ім сцэна, павінна ці адпавядаць іх уяўленням, ці пераконваць цалкам, браць у палон праўдай паводзін «героя» і яго выглядам.

Мабыць, нават назваўшы адзін з такіх вобразаў Л. Міхайлава—сеньёра Памідора ў «Прыгодах Чыпаліна» паводле папулярнай кніжкі Д. Радары, мы выклічам ўсмешку ў многіх. Колькі смешнай пыхі і наіўнага самалюбства было ў гэтым па-свойму ваяўнічым прадстаўніку аднаго з канфліктуючых у казцы лагераў! Артыст узяў пад увагу і неабходнае фізічнае адчуванне таго, што кожны разумее, калі вымаўляе слова «памідор», — круглы, чырвоны, паўнюткі па берагі сокам. І яму верылі не толькі самыя маленькія гледачы. Так, на сцэне дзейнічаў ганарлівы Памідор. Дзівоснай была і «ўнутраная лінія» паводзін персанажа. Чалавечыя якасці, што выстаўляліся аўтарам і тэатрам на смех, былі ўласцівыя гэтаму сеньёру Памідору. Не трэба было гадаць, што асуджаюць выканаўца разам з рэжысёрам і аўтарам кнігі ў такім характары і ў такім «светапоглядзе»...

З яго смяяліся ў зале. Здзекваліся. І, мабыць, штосьці бралі як прыклад таго, што такое дрэнна. Ва ўсякім разе, дзеці, як кажуць, горача прымалі акцёра, што на час спектакля рабіўся сеньёрам Памідорам.

Часта бывае на сцэне Л. Міхайлаў дзядулем.

# ПРЫ ЧЫМ ТУТ ПЕСНЯ?

СКАЖУ ШЧЫРА, пасля нашай апошняй размовы ў музычным вучылішчы мне падалося, што вы, Галіна Сямёнаўна, нарэшце, тое-сёе зразумелі. Але не паспеў я прыехаць у Мінск, як вы з'явіліся следам, і ўсё пачалося спачатку — скаргі на несправядлівасць, праклёны ў адрас «непрыяцеляў», якія быццам спяць і бачаць, як зжыць са свету Галіну Сямёнаўну Арлову.

Спачатку хацеў адказаць вам асабістым лістом, а потым падумалася, што лепш зрабіць гэта праз газету, бо надта ж многа людзей уцягнута вамі ў арбіту канфлікту — ім займаліся гарадскі камітэт партыі, абласны аддзел народнай асветы, палац піянераў, музычнае вучылішча — гэта ў Віцебску. Ведаюць пра канфлікт у Міністэрстве асветы БССР. Да таго ж, цягнецца ён ужо не год, не два...

Давайце, Галіна Сямёнаўна, паспрабуем цвяроза, як кажуць, на халодную галаву, без лішніх эмоцый яшчэ раз ва ўсім разабрацца.

Вось ужо некалькі гадоў вы ходзіце па розных інстанцыях і скардзіцеся, што вам, вопытнаму, здольнаму музыканту, не даюць магчымасці аддацца любімай справе — кіраваць аркестрам народных інструментаў Віцебскага палаца піянераў, аркестрам, які вы стварылі і выпеставалі. «Я не шкадавала ні сваіх сіл, ні свайго здароўя, ні свайго вольнага часу, бо ў рабоце з дзецьмі знаходзіла вялікую творчую асалоду. Сэрца маё замірала ад шчасця і радасці, калі сваёй ігрой аркестр мог закрануць душу слухача», — пішаце вы ў лісце ў рэдакцыю.

Нягледзячы на залішні пафас, гэтыя словы кранаюць. Тое, што музыка для вас — любоў на ўсё жыццё, што вы аддадзены сваёй прафесіі, ніхто не аспрэчвае. Не толькі шаснаццаць чалавек са спісу, які вы склалі для карэспандэнта, але і большасць з тых, хто ходзіць у вашых «ворагах», гаварылі мне, што Арлова вельмі здольны музыкант-балалаечнік, добры педагог. Яны расказвалі, што многія з вашых былых вучняў паспяхова скончылі кансерваторыю...

З цікавасцю слухаў я ваш расказ, як яшчэ ў ружовым дзяцінстве пераймалі вы бацькаву страсць да музыкі, як палюбілі балалайку, лепшы, як вы кажаце, інструмент у свеце, як выступалі на школьных канцэртах, з якім бляскам ігралі на выпускных экзаменах у вучылішчы.

Шчасліва склаўся ваш музычны лёс пасля заканчэння вучылішча. Некалькі гадоў канцэртавалі ў Белдзяржэстрадзе, а пасля, калі пацягнула на радзіму, тут, у Віцебску, вас узялі выкладчыкам у музычнае вучылішча па класе балалайкі.

І вось праз дванаццаць—трынаццаць гадоў работы, прафесійная рэпутацыя ваша, як вы гаворыце, растаптана зайздроснікамі, якім не дае спакою поспех здольнага музыканта.

— Дзе ж яны мне даруюць? — саркастычна пыталіся вы. — Мой аркестр выконваў класічныя рэчы, скажам, «Вальпургіеву ноч» Гуно, а іх калектывы — элементарныя па складанасці песні.

Што праўда, то праўда, была і «Вальпургіева ноч» і іншая класіка. Былі дзесяткі дыпломаў, грамат, падзяк вам, Галіна Сямёнаўна, за выступленні на гарадскіх, абласных, рэспубліканскіх аглядах, у Маскве на ВДНГ. Бачыў іх на свае вочы.

Аднаму не мог паверыць — што з-за нейкага нагавору, плёткі, хай інтрыгі мог распасціся цікавы аркестр, увенчаны шматлікімі лаўрамі.

— Тым не менш, так яно і адбылося, — запэўнялі вы са слязьмі абурэння на вачах.

І толькі калі сустрэўся з іншымі людзьмі, якія так ці інакш маюць дачыненне да гэтай гісторыі, зразумеў, што вы, Галіна Сямёнаўна, мякка кажучы, перабольшваеце. І ў тым, што цяпер, па сутнасці, аркестра няма, ой, колькі і вашай віны.

Спачатку, сапраўды, на вашым небасхіле не было ніводнага, нават лёгкага воблачка. Ляцела слава аркестра Арловай па ўсім Віцебску, па ўсёй рэспубліцы! Тая ж Яўгенія Іванаўна Тростнікава, дырэктар Віцебскага палаца піянераў, якую вы лічыце галоўным сваім «праціўнікам», усяляк падтрымлівала аркестр, бо слава калектыву была і яе славай. Яна тады на многае заплюшчвала вочы. Ну, хаця б на тое, што, фігуральна кажучы, першую скрыпку ў аркестры ігралі не піянеры-школьнікі, а хлопцы і дзяўчаты, на якіх чырвоныя гальштукі выглядалі занадта какетліва. Карацей кажучы, было ў аркестры нямала студэнтаў музвучылішча.

Не ведаю, Галіна Сямёнаўна, ці захочацца вам успомніць такі выпадак, мне пра яго расказала былы мастацкі кіраўнік палаца Вера Сяргееўна Гладчонак. Аркестр ваш павінен быў выступаць у Мінску. Перад самым ад'ездам вы сказалі некалькім дзяўчынкам, што на іх, на жаль, няма білетаў і яны паедуць у Мінск другім разам. Пасля стала вядома, што замест тых школьніц паехалі студэнты. З іх удзелам аркестр, вядома, гучаў больш прафесійна. Даведаліся пра гэта і дзяўчынкі, якія са слязьмі прыйшлі ў палац і сказалі, што іх нагі больш не будзе ў аркестры.

Самадзейнае мастацтва... Хіба яно існуе ў імя таго, каб бліснуць калі-нікалі ў канцэртнай зале, сарваць апладысменты, узнагароду? Спаборніцтва, вядома існуе і ў мастацтве. Але ж сутнасць самадзейнасці, відаць, у тым, каб даць кожнаму аматару выявіць свае здольнасці, хоць самыя маленькія, навучыць чалавека любіць харошую песню, танец, адным словам, далучыць яго да чыстай крыніцы мастацтва. А калі справа датычыцца маленькіх чалавечкаў, тым больш забывацца пра гэта нельга ні на мінуту.

Вы ж, Галіна Сямёнаўна, забыліся. Працавалі вы, калі можна так сказаць, дзеля прызоў. Кроў з носу, а выйсці пераможцай. І вельмі правільна сказала Марыя Сцяпанаўна Федзюковіч, былы метадыст палаца (дарэчы, гэта вы мне parailі з ёй пагаварыць), што ў дадзеным выпадку само мастацтва, ідэя служэння мастацтву былі недзе на дзесятым плане. На першым — несхаванае славалюбства, прага прызнання.

Але, паўтараю, Галіна Сямёнаўна, вакол жа былі дзеці, ці думалі вы, як уся гэта пагоня за славай адбівалася на дзіцячых душах?

Раскажу вам эпізод, сведкам якога мне аднойчы давялося быць на абласным аглядзе школьнай мастацкай самадзейнасці. Выступаў танцавальны калектыў. Раптам адна з дзяўчынак паслізнулася, войкнуўшы, расцягнулася на сцэне. Ды, так, відаць, стукнулася, небарака, што ледзь паднялася. Я стаяў за кулісамі сярод групкі вучняў. Мяне ўразіла, што ніводны з іх не паспачуваў беднай дзяўчынцы, наадварот, многія не змаглі схаваць задавальнення, нават запляскалі ў далоні. А адзін з хлапчукоў не стрымаўся:

— Ура, першага месца ім не бачыць.

Глядзеў на тых маленькіх эгаістаў і думаў, адкуль у іх гэтая чэрствасць? Хто навучыў іх, што ў мастацтве трэба прапіхвацца наперад лакцямі? Мастацтве, якое павінна ачышчаць людскія душы, рабіць людзей прыгожымі, чыстымі, высакароднымі.

Я не ўпэўнены, што вашы выхаванцы, Галіна Сямёнаўна, не стануць падобнымі на дзяцей, пра якіх я расказаў. Як відно і з вашага ліста ў рэдакцыю, і з расказаў віцебскіх таварышаў, многія аркестранты былі ўдзельнікамі вашых шматлікіх дэмаршаў, петыцый, паходаў да начальства. То вы на вачах дзяцей вяртаеце дырэктару палаца піянераў бібліятэчкі, якімі яны былі ўзнагароджаны, са словамі: «Дзеці заслужылі больш каштоўныя падарункі». То яны ідуць да загадчыка аблана Б. Яроцкага (наўрад, ці па сваёй ініцыятыве) і патрабуюць, каб іх узнагародзілі за добрае выступленне на аглядзе паездкай у Адэсу (у тую паездку, дарэчы, вы прыхапілі сваю сям'ю, ды яшчэ прыяцельку ў прыдачу...) То разам з дзецьмі ўзламваеце дзверы, дзе ляжаць інструменты...

Паступова падмурак, на якім трымаўся светлы будынак вашага поспеху, падмурак, які здаваўся вам такім трывалым, на вачах пачаў разбурацца. Вы лічыце гэта вынікам прошукаў сваіх «ворагаў». Нам здаецца, што з самага пачатку ён быў пастаўлены на вельмі зыбкую глебу.

Праўда, я не ва ўсім апраўдваю і вашых апанентаў. Відаць, не заўсёды яны паводзілі сябе інтэлігентна, не заўсёды іх учынкамі кіравалі добрыя матывы. Але што процiпаставілі ім вы, Галіна Сямёнаўна? Хіба не абрынулі вы на галаву карэспандэнта цэлую лавіну звестак, якія, вы спадзяваліся, «скампраметуюць» многіх людзей? Адзін кінуў жонку, другі пераманьвае на свой бок начальства багатымі пачастункамі, трэці хавае свае заробкі і г. д. Паказвалі мне нейкія паперкі, здабытыя, як вы самі прызналіся, употай ад іх уладальнікаў.

Прэм'ерства заўсёды выклікае раздражненне. Мабыць, таму многія вашы калегі настроены супраць вас. За ўсе гады, вы, Галіна Сямёнаўна, ні разу не выехалі ў калгас, у перыферыйную школу. А там, самі ведаеце, не багата на спецыялістаў і ваша дапамога дала б вельмі многа. Між тым, той самы Я. Нікіцін, якога вы таксама лічыце адным з вінаватых у вашых нягодах, са сваім цымбальным аркестрам (а ў яго амаль адна дзятва) аб'ехаў усю Віцебшчыну. Праўда, яго аркестр выконвае не такі складаны рэпертуар, але затое іграюць дзеці. А гэта, нам здаецца, вельмі важна.

З абурэннем расказвала мне загадчыца навучальнай часткі палаца піянераў Людміла Мікалаеўна Якубовіч, што для вас не існавала ні раскладу заняткаў, ні дысцыпліны.

У палацы піянераў дагэтуль успамінаюць выпадак, калі вы ледзь не сарвалі інвентарызацыю — адмовіліся адкрыць пакой з інструментамі. Давялося камісіі ўзламваць замок і складаць з гэтай прычыны акт.

Кульмінацыяй усёй гісторыі з'явілася рэвізія камітэта народнага кантролю, пасля якой у вас была адабрана грашовая стаўка ў палацы. Вы абвінавачваеце ў гэтым дырэктара Я. Тростнікаву, якая, маўляў, хоча пазбавіцца ад вас. Але ж тая самая Тростнікава атрымала суровую вымову за незаконную выплату грошай вам, Галіна Сямёнаўна, бо ў дадатак да іх вы мелі дзве стаўкі ў вучылішчы.

І вось вы пішаце ва ўсе канцы, каб вам вярнулі стаўку ў палацы піянераў, хаця наўрад ці не ведаеце, што зрабіць гэта можна толькі ў абыход закона.

«Ах, што будзе з маімі дзецьмі, з маім аркестрам? Чаму мне не даюць займацца любімай справай?» — скардзіцеся вы. Але, Галіна Сямёнаўна, чаму справу трэба любіць толькі за грошы? Я мог бы назваць дзесяткі кіраўнікоў самадзейнага мастацтва, сапраўдных энтузіястаў, якія робяць сваю справу, не думаючы пра ўзнагароду, тым больш, грашовую. Нарэшце, вам прапанавалі аддаць адну стаўку ў вучылішчы і замест яе ўзяць у палацы. Вы ж катэгарычна адмовіліся.

Праўда, у час разбору вашай заявы ў Віцебскім гаркоме партыі, разбору, які вёўся ў прысутнасці работнікаў палаца піянераў і аблана, вы сказалі, што згодны кіраваць аркестрам на грамадскіх пачатках.

Але гэта быў, Галіна Сямёнаўна, так сказаць, дыпламатычны ход. Вы нават не напісалі заявы аб залічэнні кіраўніком аркестра на грамадскіх пачатках, а час ад часу, калі ўздумаецца, літаральна крадком праводзілі рэпетыцыі.

Натуральна, гэта выклікала абурэнне кіраўнікоў палаца, якія патрабуюць ад вас заявы, спісу аркестрантаў, каб можна было ўсё аформіць па існуючых парадках, уключыць рэпетыцыю ў агульны расклад і г. д.

«Заявы ад мяне яны не дачакаюцца, — сказалі вы. — Буду займацца тады, калі мне захочацца. Я працую не за грошы...»

І вось самы апошні, проста абуральны выпадак. Цытую дакладную намесніка дырэктара палаца піянераў па гаспадарчай частцы Ф. Варапаева: «11 сакавіка г. г. у 11.30 раніцы былы кіраўнік аркестра народных інструментаў Арлова Г. С. у суправаджэнні 12—15 чалавек, сярод якіх было 8—9 дарослых, зрабіла спробу ўзламаць дзверы пакоя, дзе ляжаць інструменты. Я паклікаў на дапамогу кінамеханіка В. Сукеравічуса, і ўдваіх нам удалося спыніць самаўпраўства. Каб адпомсціць, студэнты, якія прыйшлі з Арловай, паламалі стэнд у калідоры...»

Перачытваю дакладную, і думаю: годзе, Галіна Сямёнаўна. Не веру я ў вашы высокія словы аб служэнні мастацтву. Што-што, а песня тут ні пры чым.

**М. ЗАМСКІ,**
спец. кар. «Літаратуры і мастацтва».

Віцебск—Мінск.



**Мастацкі кіраўнік ансамбля танца «Вяснянка» палаца культуры магілёўскага аўтазавода імя Кірава Мікалай Дудчанка.**

# МАСТАКІ ЗАПРАШАЮЦЬ НА СВЯТА

**Штогод увесну ў нашай краіне праводзіцца Тыдзень выяўленчага мастацтва. У гэтым свяце прымаюць удзел самыя шырокія колы грамадскасці. Аматары мастацтва сустракаюцца з жывапісцамі, скульптарамі, графікамі ў майстэрнях, на выстаўках. Мастакі і мастацтвазнаўцы выступаюць з лекцыямі аб выяўленчым мастацтве на прадпрыемствах, ва ўстановах, у інстытутах і школах. Актывізуецца выставачная дзейнасць Саюза мастакоў СССР.**

**Наш карэспандэнт сустрэўся з адказным сакратаром праўлення Саюза мастакоў БССР Ул. Бойкам і папрасіў адказаць яго на пытанні аб тым, як будзе сёлета праходзіць Тыдзень выяўленчага мастацтва ў нашай рэспубліцы.**

*— Першае пытанне — пра сёлетні тэрмін тыдня і пра саму традыцыю яго правядзення.*

— Традыцыя правядзення тыдняў выяўленчага мастацтва сугучная ідэям ленінскага плана манументальнай прапаганды. Сам прынцып правядзення гэтага свята выяўленчага мастацтва — як мага шырэй прыцягнуць увагу грамадскасці да высакародных задач, якія мастацтва сацыялістычнага рэалізму вырашае на шляхах служэння савецкаму народу. Мінулыя тыдні выяўленчага мастацтва праводзіліся пад знакам святкавання 100-годдзя з дня нараджэння Уладзіміра Ільіча Леніна, 50-годдзя ленінскага плана манументальнай прапаганды, 50-годдзя ўтварэння братняга Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік і іншых урачыстых дат нашай краіны. Мастацкія выстаўкі, напрыклад, 1972 года прадэманстравалі шматнацыянальны характар савецкага выяўленчага мастацтва, засведчылі актыўны ўдзел савецкіх мастакоў у працоўных здзяйсненнях народа, паказалі росквіт нацыянальных культур усіх савецкіх рэспублік, у тым ліку і Савецкай Беларусі. Выстаўкі пераканальна паказалі пастаяннае ўзаемаўзбагачэнне мастацкіх культур братніх рэспублік Савецкага Саюза.

Сёлета Тыдзень выяўленчага мастацтва адбудзецца з 16 па 22 красавіка. Ён праводзіцца пад дэвізам «Мастацтва належыць народу». Дарэчы, якраз на тэрмін тыдня прыпадае і правядзенне Усесаюзнага камуністычнага суботніка, у якім мастакі нашай рэспублікі прымуць актыўны ўдзел.

*— Як складзецца выставачная дзейнасць Саюза мастакоў БССР у дні Тыдня?*

— Запланавана значная колькасць разнастайных выставак. Як і заўсёды, па традыцыі, адкрыццё тыдня адбудзецца ў Жодзіна, дзе плануецца выстаўка беларускага жывапісу і графікі. Там жа адкрыецца экспазіцыя твораў мясцовых мастакоў. Шэраг выставак адбудзецца на прамысловых прадпрыемствах сталіцы рэспублікі, у сельскай мясцовасці. Абласныя арганізацыі Саюза мастакоў БССР наладжваюць паказ твораў мастакоў абласцей. Літаральна днямі скамплектавана і завезена перасоўная выстаўка твораў мастакоў Беларусі ў калгас «Маяк камунізму» на Міншчыне. У Салігорску адкрыецца выстаўка работ Г. Паплаўскага з падарожжа па Індыі. Зразумела, што ў часе тыдня мастакі сустрэнуцца з гледачамі непасрэдна ля палотнаў на выстаўках.

*— Натуральна, будуць праведзены «дні адчыненых дзвярэй» у майстэрнях мастакоў?*

— Так, многія мастакі ў сваіх майстэрнях сустрэнуцца з гледачамі, раскажуць ім пра свае творчыя планы, пра сваю работу. Апрача таго, мастацтвазнаўцы і мастакі выступяць з гутаркамі на прадпрыемствах і ва ўстановах, у школах рэспублікі. Уся практыка савецкага выяўленчага мастацтва, асабліва ў апошнія гады, паказвае, наколькі плённай з'яўляецца сувязь савецкіх мастакоў з рабочым класам, працаўнікамі сельскай гаспадаркі, інтэлігенцыяй, воінамі Савецкай Арміі і Ваенна-Марскога флоту. Таму мы спадзяёмся, што і ў часе тыдня мастакі, наведваючы прамысловыя прадпрыемствы, працуючы на камуністычным суботніку, створаць замалёўкі, якія, магчыма, складуць асобную спецыяльную экспазіцыю.

*— Ці будуць у часе сёлетняга тыдня праведзены мерапрыемствы, якія ўнясуць нешта новае ў практыку правядзення свята выяўленчага мастацтва?*

— Шчыра кажучы, загадзя гаварыць, можа, і не варта. Зразумела, плануем калі і не зусім новае, то, прынамсі, вартае ўвагі. Спадзяёмся, што сёе-тое ўдасца здзейсніць. Так, напрыклад, цяпер, як вядома, у розных месцах нашай краіны і за мяжой практыкуюцца так званыя выстаўкі твораў мастацтва пад адкрытым небам. Пераважна так экспануецца скульптура. Своеасаблівыя экспазіцыі пад адкрытым небам не толькі скульптуры, але і жывапісу, і графікі нам удасца арганізаваць, калі мы скарыстаем у якасці «выставачных пляцовак» вітрыны кнігарань. У часе сёлетняга тыдня мы мяркуем правесці такі эксперымент.

У выставачнай зале Саюза мастакоў рэспублікі, дзе плануем разгарнуць выстаўку твораў самадзейных мастакоў прадпрыемстваў Першамайскага раёна Мінска, мяркуем ўстанавіць эстампны станок, які будзе працаваць у дні тыдня. Наведвальнікі выстаўкі здолеюць пабачыць на свае вочы, як друкуюцца эстампы.

*— А якія традыцыйныя мерапрыемствы будуць яшчэ праведзены ў часе тыдня, апрача названых?*

— Спадзяемся, што ў кінатэатрах рэспублікі шырока будуць паказаны фільмы пра выяўленчае мастацтва, у тым ліку і пра майстроў выяўленчага мастацтва нашай рэспублікі. Плануюцца таксама выстаўкі-продаж твораў выяўленчага мастацтва, сустрэчы мастакоў-прафесіяналаў з народнымі майстрамі-ўмельцамі, выезды мастакоў на прадпрыемствы з кансультацыямі па афармленні нагляднай агітацыі, конкурс на лепшы дзіцячы малюнак на асфальце.

І вось, можа быць, не зусім традыцыйнае мерапрыемства: ёсць у Саюзе мастакоў рэспублікі творчая камісія праўлення па рабоце з маладымі мастакамі. На ўліку ў камісіі каля сотні будучых членаў нашага саюза. Спадзяёмся, што камісія правядзе конкурс сярод маладых мастакоў на лепшую замалёўку з сённяшняга нашага жыцця. Магчыма, у выніку гэтага конкурсу з'явіцца цікавая экспазіцыя замалёвак.

Карацей кажучы, планаў нямала. Спадзяёмся, што яны будуць здзейснены. Спадзяёмся, што шырокія колы грамадскасці паспрыяюць іх здзяйсненню.

# ТУТ ДЗЕСЯЦЬ КЛАСАЎ ПРОЙДЗЕНА...

У баку ад галоўнай вуліцы, у ціхім завулку, у гушчары векавых таполей стаіць мая школа. 1-я сярэдняя школа горада Чэрвеня. Неўзабаве ёй споўніцца 100 год.

Многія вучні гэтай школы сталі вядомымі людзьмі — грамадскімі дзеячамі, вучонымі, архітэктарамі, мастакамі, артыстамі.

Кожны год збіраемся мы ў сваю школу на традыцыйныя сустрэчы. Дырэктар школы Станіслаў Паўлавіч Малішэўскі, таксама выпускнік 1-й школы, падтрымлівае з намі трывалыя сувязі. І кожны раз, едучы на традыцыйны збор, мы вязем з сабой падарункі школьнаму музею У. І. Леніна.

Мастакі Яўген і Валянцін Ціхановічы, мае аднакашнікі, паказалі ў сваёй школе выстаўкі графікі і жывапісу. Я таксама ў адзін з прыездаў развесіў у школьных калідорах свае работы.

Станіслаў Паўлавіч надае выяўленчаму мастацтву вялікую ролю ў выхаванні дзяцей. Таму ў школьным музеі можна ўбачыць работы многіх мінскіх мастакоў. Сярод іх бюст У. І. Леніна работы народнага мастака Беларусі З. Азгура, кампазіцыя «Рабочы» скульптара В. Палійчука, літаграфія С. Геруса «У. І. Ленін у сваім Крамлёўскім кабінеце», гравюра С. Рана «Сям'я Ульянавых».

Не так даўно на сустрэчу са школьнікамі 1-й Чэрвеньскай школы прыехаў выпускнік 1928 года Уладзімір Адамавіч Король, цяпер старшыня Дзяржбуда БССР, народны архітэктар СССР.

Сустрэча прайшла вельмі цёпла і цікава. Уладзімір Адамавіч расказаў пра тыя часы, калі ён быў вучнем, пра любімых настаўнікаў.

Ён падараваў школьнаму музею бронзавы барэльеф У. І. Леніна, які зараз таксама ўключаны ў экспазіцыю.

**Ул. САКАЛОЎ,**
мастак.

# ВІЦЕБСК СТАРАЖЫТНЫ, МАЛАДЫ

*Амаль тысячу гадоў, як стаіць на беларускай зямлі гэты горад. Шмат чаго прыпадала на яго лёс — войны, разбурэнні... Але сёння, заліты лагодным вясновым сонцам, ён выглядае на дзіва прыгожым і маладым.*

*Узняліся ў неба сталёвыя рукі кранаў — расце Віцебск.*

*Па прыгожых, зялёных вуліцах ідуць шчаслівыя людзі — будаўнікі новага жыцця!..*

*Малюнкі Ф. ГУМЕНА.*



НАШЫ МАЙСТРЫ МАСТАЦТВА

# ПРАЗ УСЁ ЖЫЦЦЁ...

Глухі заснежаны лес... Вузкая сцяжынка вядзе да палянкі. Калі прыгледзецца, можна заўважыць на ёй добра замаскіраваныя зямлянкі. Злева пад павеццю схавалася печ. Пад другой павеццю стаіць доўгі стол з укапанымі ў зямлю лаўкамі. Каля адной з зямлянак (відаць, камандзірскай) напісаны рукой «Баявы лісток».

Калі не звяртаць увагі на асвятляльныя прыборы ды на кіназдымачны апарат, ствараецца ўражанне, што машына часу перанесла нас на трыццаць гадоў назад, у адзін са шматлікіх партызанскіх лагераў. Але машына часу тут ні пры чым — партызанскі лагер створаны паводле эскізаў мастака-пастаноўшчыка заслужанага дзеяча мастацтваў БССР Яўгена Ганкіна.

Вунь і сам ён — каржакаваты, чорнавалосы, з учэпістымі вачыма, з шурпатымі, як у слесара, далонямі корпаецца нешта ля «партызанскай кузні»...

Мы, кінагледачы, параўнальна добра ведаем творчыя, а нярэдка і жыццёвыя біяграфіі кінаакцёраў. Маем уяўленне аб працы рэжысёра, аператара, сцэнарыста. А вось у тым, што робіць мастак кіно, разбіраемся чамусьці значна горш. Між тым менавіта ён, мастак, першым стварае канкрэтныя візуальныя вобразы будучага фільма. Гэта ён стварае фарбы, лініі, рэчы — увесь той свет, які з'явіцца потым перад намі на экране.

Семнаццацігадовы юнак з глухога мястэчка Шчэдрын былога Парыцкага раёна Гомельскай вобласці ў пачатку 1939 года паступіў вучыцца на мастацкі факультэт Усесаюзнага інстытута кінематаграфіі. А з першых дзён вайны студэнт Я. Ганкін у радах народнага апалчэння.

Разам з іншымі мастакамі Я. Ганкін рабіў эскізы рэквізіту да фільма «Іван Грозны».

— Аднойчы, — успамінае Яўген Ганкін, — калі я пісаў ікону, падышоў Сяргей Міхайлавіч Эйзенштэйн. Пастаяў моўчкі, паглядзеў, потым папрасіў пэндзаль. Макнуў яго ў фарбу і... удвая звузіў нос багамацеры, разы ў паўтара павялічыў вочы, энергічнымі мазкамі падкрэсліў аскетычнасць шчок. Стылізацыя, сказаў ён, патрабуе, а ў іконе асабліва, моцнай трансфармацыі дэталей.

Урокі славутага рэжысёра, выдатнага мастака, надоўга запомніліся Яўгену Ганкіну. І сёння,назіраючы за яго работай, калегі здзіўляюцца самаадданасці мастака, яго пільнасці да «дробязей»,




Кінамастак Яўген Ганкін (на першым плане) на здымачнай пляцоўцы.

*СКАРБЫ МАСТАЦКАГА МУЗЕЯ*

Мы адкрываем новую рубрыку — «Скарбы мастацкага музея». Пад гэтай рубрыкай будуць друкавацца матэрыялы, у якіх расказваецца пра лепшыя творы з калекцыі Беларускага дзяржаўнага мастацкага музея. Спадзяёмся, што гэта рубрыка выкліча цікавасць нашых чытачоў, яны адгукнуцца на яе, напішуць, пра якія работы з экспазіцыі Мастацкага музея БССР ім хацелася б даведацца.

# ПАРТРЭТ М. Ф. АНДРЭЕВАЙ

*1906 год... 35-я выстаўка твораў Таварыства перасоўнікаў... Увагу наведвальнікаў прыцягнуў партрэт славутай артысткі Марыі Фёдараўны Андрэевай работы І. Рэпіна.*

*Цяпер гэты партрэт знаходзіцца ў экспазіцыі Беларускага дзяржаўнага мастацкага музея.*

*Незвычайна цікавы не толькі сам партрэт, але і гісторыя яго стварэння, асоба гераіні, той шлях, які прайшла гэтая работа І. Рэпіна, пакуль не апынулася ў Беларусі.*

*Выдатная драматычная актрыса, рэвалюцыйны дзеяч, тонкі і разумны дыпламат — Марыя Фёдараўна Андрэева была незвычайным чалавекам.*

*Незвычайнасць і шматграннасць яе таленту адлюстравалася і ў партыйнай мянушцы «Феномен», якую прыдумаў для М. Андрэевай У. І. Ленін.*

*Ілья Яфімавіч Рэпін ведаў Марыю Фёдараўну з дзяцінства і, як прыгадвае Т. Шчэпкіна-Купернік, «пісаў і маляваў Марыю Фёдараўну, калі ёй было восем год, дзесяць, дванаццаць... Калі ёй было пятнаццаць — ён пісаў з яе донну Анну — для ілюстрацыі да «Каменнага госця» А. Пушкіна».*

*Апошні яе партрэт (той, пра які ідзе гаворка) Ілья Яфімавіч пісаў ў 1905 годзе ў Фінляндыі, дзе Марыя Фёдараўна жыла разам з Аляксеем Максімавічам Горкім на дачы. Іх дача была недалёка ад Рэпінскіх «Пенатаў». Суседзі і знаёмыя, яны часта сустракаліся, і тады Рэпін вырашыў напісаць групавы партрэт—Марыю Фёдараўну разам з Аляксеем Максімавічам Горкім. Але партрэт гэты нешта «незаладзіўся», работа над ім спынілася і Рэпін напісаў адну М. Андрэеву.*

*Марыя Андрэева сядзіць у крэсле, на фоне зеляніны. Яе твар спакойны і ўраўнаважаны, але недзе ў глыбіні вачэй жыве, гатовая ўспыхнуць у любы момант, усмешка. Увесь лад партрэта скіраваны на тое, каб падкрэсліць не толькі абаяльнасць і прыгажосць гэтай цудоўнай жанчыны, але расказаць і аб значнасці яе асобы, аб сіле характару, мэтанакіраванасці. І мастаку гэта ўдалося бліскуча. Сёння гэты партрэт па праву лічыцца адным з лепшых партрэтаў вялікага рускага жывапісца.*

*Пасля выстаўкі 1906 года партрэт доўгі час знаходзіўся ў прыватных калекцыях. Спачатку ў самой Марыі Фёдараўны, затым у калекцыі яе сябра і паплечніка І. Масквіна. Толькі ў 1962 годзе Беларускі дзяржаўны мастацкі музей набыў яго для сваёй калекцыі.*

*Сёння, калі экскурсіі праходзяць па залах музея, ля гэтага партрэта, як і даўней на выстаўках перасоўнікаў, спыняюцца людзі. Спыняюцца, каб палюбавацца выдатным майстэрствам мастака, каб захапіцца абаяльнасцю і душэўнай прыгажосцю выдатнай актрысы і рэвалюцыянеркі.*

**Р. БАДЗІН.**







жаданню пранікнуць у самую сутнасць справы.

У дылогіі А. Адамовіча «Партызаны» ёсць такі герой — Віктар, мастак, які, цудам вырваўшыся з канцлагера, адчувае, што не можа не маляваць: перажытае не дае спакою.

— Калі пачалася работа над кінадылогіяй «Вайна пад стрэхамі», — расказвае А. Адамовіч, — Я. Ганкіну прыйшлося пераўвасобіцца, «зрабіцца» Віктарам. Яму трэба было напісаць такія карціны, якія напісаў бы герой фільма. І вось вобраз мастака, які перанёс столькі пакут, пачаў поўніцца, расці, набываць канкрэтныя рысы характару, якія не былі вядомыя нават мне. Віктар, дзякуючы карцінам, якія напісаў «за яго» Яўген Ганкін, зрабіўся героем філасофскага плана, нечакана вырас у аднаго з галоўных персанажаў фільма.

Той, хто бачыў кінадылогію, не зможа забыць дрэвы на карцінах Віктара. Дрэвы падобныя на загрубелыя, збітыя ад непасільнай працы далоні. Не забудзе глядач і дзяўчынку на калючым дроце, якім агароджаны канцлагер, яе вочы, якія нават пасля смерці глядзяць туды, на волю...

Не адзін фільм пра вайну «зрабіў» Я. Ганкін. І іншы раз, здараецца, той-сёй пытае яго:

— А ці няма тут пагрозы паўтарыцца?

— Што ж, — усміхаецца Яўген Маркавіч,—вось і прыходзіцца, каб не паўтарыцца, шукаць. Шукаць новыя рашэнні, новыя павароты тэмы, новыя прыёмы кампаноўкі, новыя фарбы...

У кожным эскізе Я. Ганкіна, які ён робіць для «ваенных» фільмаў, —не толькі дакладныя прыкметы вайны, але і яе філасофскае асэнсаванне. У кожным эскізе —трагедыя і гераізм нязломнага народа...

У прасторным гасцінным пакоі кватэры Я. Ганкіна ўсяго адзін маленькі партрэт. Спачатку гэта здзіўляе — мы ж у доме мастака! Але хутка становіцца зразумелым — гэтага дастаткова. З партрэта, падпёршы рукою галаву, глядзіць старэнькая жанчына. Пагляд нейкі незвычайны, пякучы. У вачах смутак і рашучасць, боль і мудрасць. Чамусьці, як зачараваны, не магу адвесці ад партрэта позірк.

— Мая маці. Закатавана фашыстамі ў сорак першым...

Толькі-толькі завершана чарговая работа, а Яўгену Маркавічу не церпіцца ўзяцца за новы фільм. Нядаўна прапанавалі сцэнарый. Мастак прачытаў і наадрэз адмовіўся працаваць над ім. Гаварылі з Яўгенам Маркавічам і ў афіцыйным парадку, і «па-сяброўску», маўляў трэба ратаваць сцэнарый. А мастак лічыць, што трэба ратаваць гледача ад шэрага фільма.

Рэжысёры, з якімі даводзілася працаваць мастаку, — Віктар Тураў, Сяргей Сплашноў, Іосіф Шульман, Аляксандр Карпаў і іншыя сцвярджаюць, што эскізы Яўгена Ганкіна не аднойчы прымушалі іх уводзіць у рэжысёрскія сцэнарыі нейкія, здаралася, нават кардынальныя змены. Напрыклад, у фільм «Заўтра будзе позна» ўвайшла такая сцэна: каля нямецкай камендатуры з грузавой машыны разгружаюць бюсты Гітлера. Мноства галоў фюрэра стаяць на снезе, ашалела ўтаропіўшыся адзін у аднаго. Стары салдат у акулярах, сагнуўшыся ад холаду, абыякава валачэ два бюсты ў камендатуру. Зараз ён атрымае аплявуху ад эсэсаўскага афіцэра за непачцівыя адносіны да асобы фюрэра... Гэтага эпізоду не было ў сцэнарыі. Яго прыдумаў і намаляваў Я. Ганкін. Так ён і трапіў у фільм.

Напярэдадні 55-й гадавіны Савецкай Арміі і 25-й гадавіны лютаўскай перамогі працоўных у Чэхаславакіі ў Браціславе, Маскве і Мінску адбыліся ўрачыстыя прэм'еры савецка-чэхаславацкага мастацкага фільма «Заўтра будзе позна». Ледзь вырваўся на адну з іх Яўген Маркавіч Ганкін — мастак-пастаноўшчык гэтага фільма.

Зараз на студыі «Беларусьфільм» па сцэнарыі Івана Шамякіна здымаецца фільм пад умоўнай назвай «36 вагонаў» і Яўген Маркавіч цалкам у новай рабоце.

— Мяне ў гэтым фільме цікавіць усё, — гаворыць Я. Ганкін, — і сцэнарны матэрыял, і тое, што фільм гісторыка-рэвалюцыйны, і тое, што прыйдзецца супрацоўнічаць з новымі для мяне, цікавымі мастакамі — рэжысёрам В. Нікіфаравым і аператарам Э. Садрыевым.

Нядаўна ў Саюз кінематаграфістаў БССР прыйшло пісьмо, у якім былі словы: «Мы ганарымся, што з нашага ў мінулым глухога палескага мястэчка выйшаў і стаў майстрам савецкага кіно Яўген Маркавіч Ганкін»...

І мастак стаў збірацца ў дарогу. Ён хоча паехаць на радзіму не адзін — з калегамі, з фільмамі. Гэта будзе своеасаблівая справаздача перад землякамі за трыццаць год творчай дзейнасці.

Мастак едзе туды, дзе басаногім хлопчыкам перамаляваў усіх суседзяў, дзе за карцінкі, наіўныя, дзіцячыя яшчэ карцінкі, атрымаў першую грамадскую падзяку — ад старшыні калгаса. Едзе туды, адкуль пачаўся яго шлях у вялікае мастацтва, туды, дзе стаіць помнік яго маці і дзесяткам землякоў, закатаваных фашыстамі.

**І. РЭЗНІК.**

## ЖЫЦЦЁ — ПОДЗВІГ

# ЧАЛАВЕК НА ВЫСОКІМ УЗРОЎНІ

І. ПІСЬМЕННАЯ

*20, май. серада.*
*Усх. 4.11.*
*Зах. 20.43.*
*Дайж. дня 16.32.*

Быў дзівосны дзень. Шчодра свяціла сонца. Невялікі курортны гарадок увесьззяў. Паветра загусцела ад водару кветак, травы, мора. Сонечныя промні рассыпаліся тысячамі блікаў у шклянках з газіраванай вадой, адбіваліся ад цёмных каменняў, амытых марскімі хвалямі, і здавалася, што дагарае мноства маленькіх вогнішчаў...

*«Мінск, вуліца Мяснікова, дом 34, кв. 21, Даніловічам.*

*Добры дзень, дарагія мае тата і мама! Я жывы і здаровы, адчуваю сябе добра. Я так загарэў на сонцы, што ўвесь аблез—трэба загараць нанава...*

*Жадаю вам усяго найлепшага.*

*Цалую ўсіх. Валя».*

Валянцін не хлусіў: сапраўды, злазіла скура. Толькі ён не адпачываў, а працаваў. Але пра гэта ён не пісаў родным, таму што любіў іх, не хацеў, каб яны хваляваліся.

Набліжаўся новы выпрабавальны скачок-катапульціраванне. Усё прадумана да апошняй дэталі. Рукі ведаюць сваю справу, ім не трэба нічога падказваць, дасягнута высокая ступень аўтаматызму. Ну, і галава ў парадку. Ён ужо, як кажуць выпрабавальнікі, «хадзіў» на такой устаноўцы, «абмацваў» яе ў паветры, але цяпер трэба было выпрабоўваць яе ў новых рэжымах.

Неба—нібы яго знарок памазалі сінім і аблокі неахайна раскідалі. Недзе высока-высока гуў самалёт, але ўбачыць яго не ўдавалася, бо самалёт ішоў вельмі хутка і гук не паспяваў за ім, гук адставаў, і там, адкуль ён чуўся, самалёта ўжо не было. Заставаўся толькі след інверсіі—бялюткая тоненькая паласа, якая нібы дзяліла неба на дзве часткі.

Зараз загарыцца табло «Падрыхтавацца!», і Валянцін, зразумела, адкажа: «Гатовы!». На кароткім, а дакладней—доўгім шляху ад пасадкі ў самалёт да катапульціравання адбудзецца нямала імклівых перападаў настрою—ад фартысіма да піяна. Бо магутнасць чалавека менавіта ў тым, што ён умее мысліць, аналізаваць, не падпарадкоўвацца абставінам, а падпарадкоўваць іх сабе, шукаць і не здавацца.

*«...Як я сутыкнуўся з гэтай прафесіяй—узлятаць у неба, бачыць з вышыні бабульку-зямлю, адчуваць вострую асалоду свабоднага падзення...»*

*«...Мог бы цяпер, як усе, ляжаць на беленькім пясочку, блукаць з Аэлітай па заапарку, здымаць звяроў. Бегемота, напрыклад...»*

*«...Скачкамі з парашутам зараз нікога не здзівіш. Хаця... Быць чэмпіёнам свету... Лепшы парашутыст у свеце—гэта ўжо нешта! Прыемна, чорт пабяры...»*

*«...Да д'ябла! Да д'ябла ўсё! Навошта мне ўсё гэта патрэбна? Націсну на кнопку, катапультуюся, але гэта апошні раз! Апошні!»*

*«...Неба пацямнела. Высока забраліся. Якая незямная гама фарбаў... І назвы ім не падбярэш...»*

Звычайная секунда. Мы вымяраем яе: і раз... і два... і тры... Там наверсе, у выпрабавальнікаў, зусім іншыя маштабы часу. Кожная секунда раптам робіцца неймаверна доўгай. Яна робіцца такой доўгай, што ў яе ўмяшчаецца ўсё жыццё.

Валянціну ўсяго трыццаць чатыры. Але ён паспеў пазнаць, што такое вайна. Яна заспела сям'ю Даніловічаў у невялікай вёсцы пад Мінскам, дзе яны гасцявалі ў бабулі. Бацька, Іван Іосіфавіч, кадравы ваенны, адразу ж паехаў, а Валя з мамай засталіся — хлопчык цяжка хварэў.

Хто перажыў тыя дні, каго вайна застала ў Мінску, памятаюць, як жорстка бамбілі фашысты горад, як гарэла ўсё навокал, і як цяжка было выбрацца з гэтага пекла. Потым прыйшлі фашысты. пачаліся аблавы, шукалі чырвоных камандзіраў, камуністаў, іх сваякоў. Марыі Данілаўне і Валі давялося перабрацца ў суседнюю вёску, дзе іх ніхто не ведаў, і там хавацца ад гітлераўцаў.

Так скончылася дзяцінства.

А потым было наступленне. Савецкія войскі прарвалі фронт пад Бабруйскам. Сярод тых, хто вызваляў гэтыя мясціны, быў Іван Іосіфавіч Даніловіч. Валя глядзеў на невысокага стомленага чалавека з афіцэрскімі пагонамі на гімнасцёрцы і не пазнаваў у ім свайго бацьку. Маці падштурхоўвала сына, а ён не падыходзіў—не верыў...

Пасля вайны пасяліліся ў маленькім мястэчку Асіповічы. Там і цяпер добра памятаюць Валянціна—вясёлага прыгожага хлапчука. Ён захапляўся авіямадэліраваннем. Мадэлі, якія рабіў Валя, лялалі не вышэй і не далей іншых, але лялалі. Ён любіў сачыць за іх палётам, таму што вельмі цікава самому зрабіць такую штуку, якая лятае.

А самому лятаць?...

Ну вось і загарэлася табло «Падрыхтавацца!». Зараз выпрабавальніку трэба разблакіраваць страляючы механізм... Валянцін выпрабоўвае новую катапульту, якая павінна забяспечыць выратаванне лётнага саставу пры аварыйных абставінах на любых вышынях і любых хуткасцях. Дарэчы, праблема катапульціравання на малых вышынях ужо даўно хвалявала канструктараў і інжынераў. Эфектыўнае катапультнае прыстасаванне, якое б забяспечыла выратаванне экіпажу на малых вышынях, стварыць аказалася не проста.

Кожная катапульта праходзіць вялікі выпрабавальны шлях. Спачатку яе правяраюць у аэрадынамічнай трубе, пад рознымі нагрузкамі на зямлі. Потым выпрабоўваюць з манекенам у паветры. Спецыяльныя датчыкі запісваюць неабходныя параметры: час палёту да адстрэлу сядзення, моманты кручэння, перагрузкі... І толькі потым у катапульту садзіцца чалавек. Толькі чалавек здольны даць канчатковую ацэнку эксперыменту.

Адзін выпрабавальнік, які не раз штурмаваў неба, гаварыў: «Кожнае выпрабаванне ўключае пазнаванне чаго-небудзь нязведанага. Гэта нагадвае калекцыяніраванне паштовых марак. Кожная новая марка прыносіць многа радасці. Альбом паступова запаўняецца, але канца гэтай справе няма. Увесь час працягваецца пошук новых марак. Чым цяжэй дастаць тую ці іншую марку, тым мацней жаданне яе мець».

У сёмым класе нечакана для бацькоў Валянцін прынёс дадому даведнік для паступаючых у вышэйшыя навучальныя ўстановы. Ці то жартам, ці ўсур'ёз ён сказаў, што выбірае МАІ. Потым зрабілася ясна, што выбар быў канчатковы. Пасля школы падаў дакументы ў Маскоўскі авіяцыйны інстытут.

На экзамене па хіміі выкладчык хацеў паставіць яму чацвёрку. Але штосьці, відавочна, перашкаджала яму гэта зрабіць, таму што ён нечакана спытаў у Даніловіча:

— Чацвёркі хопіць?

— Не хопіць!—дзёрзка адказаў Валянцін.

Пасыпаліся пытанні. У гэтым нялёгкім паядынку Валянцін адчуваў сябе лёгка і ўпэўнена, як потым у свабодным палёце. Ён атрымаў пяцёрку і паступіў у інстытут.

Побач з ім апынуўся невялікі, ладна збіты, востры на язык хлопец. Алег. Пасябравалі. Разам пачалі хадзіць у аэраклуб, скакаць з парашутам. Зараз Алег успамінае, што гэта былі дзіцячыя забавы. Прыцягальныя, бясконца прывабныя дзіцячыя забавы... Выхваляліся перад дзяўчатамі—маўляў, любуйцеся, якія мы. Тыя і сапраўды любаваліся. А хлопцы ўсё больш і больш захапляліся справай. Натуры цэласныя, упартыя, з вечным імкненнем спасцігаць невядомае, яны хутка зразумелі, што быць парашутыстамі-выпрабавальнікамі—гэта і ёсць справа іх жыцця.

«Сучасны спартыўны парашут,—пісаў пазней у часопісе «Наука и жизнь» майстар спорту Валянцін Даніловіч,—гэта складаная аэрадынамічная сістэма, якая ператварае «спуск з парашутам» у «кіруемы палёт чалавека з парашутам».

Напярэдадні выпрабавання— насуперак усім нормам і парадкам—Валянцін угаварыў усіх і скочыў з парашутам. Яму нават не дазвалялі ездзіць на веласіпедзе—не дай бог, пашкодзіць нагу, але тут... Яму патрэбны быў гэты скачок. Колькасць скачкоў ужо даўно перавалiла за тысячу (больш паловы з іх—выпрабавальныя), але кожны новы нараджаў пачуццё радасці перамогі.

Ён бачыў аблічча зямлі з неверагодных вышынь. Яна набліжалася да яго імкліва і грозна, была цвёрдай і грубай, добрай і мяккай. Ён любіў зямлю. Узлятаў у неба, выконваў найцяжэйшыя скачкі з пастаяннай надзеяй вярнуцца. Часам ён спяваў, падлятаючы да зямлі. Можа, у гэтыя хвіліны яму думалася, што тыя, хто зможа выратавацца на апаратах і парашутах, якім ён, Валянцін Даніловіч, даў «дабро», будуць шчаслівымі, таму што зямлю нельга не любіць.

Многа разоў катапульціраваўся Валянцін Даніловіч з розных лятальных апаратаў, апрабіруючы пры гэтым новыя скафандры і сістэмы, прызямляўся ў спецыяльных кантэйнерах. Ствральнік катапультных прыстасаванняў, буйны інжынер, якому давялося працаваць з Валянцінам Іванавічам, расказвае, што Даніловіч быў не толькі адважным выпрабавальнікам, але і выдатным інжынерам. Ён сам афармляў справаздачныя тэхнічныя дакументы, а гэта ўмеюць рабіць далёка не ўсе выпрабавальнікі. Праўда, спачатку ён пісаў іх занадта літаратурна, нават неба апісваў. Яго першыя тэхнічныя справаздачы нагадвалі старонкі з дзённіка. Даніловіч, безумоўна, належаў да гвардыі пішучых людзей: ён прыкмячаў дэталі, даваў нечаканыя характарыстыкі людзям і з'явам. Кніжка пра тое, што ён убачыў, адчуў, перажыў, была наперадзе.

Валянцін быў народжаны выпрабавальнікам і стаў ім. Так здараецца вельмі рэдка, і гэта быў менавіта той выпадак.

— Разумееце,—гаворыць брат Валянціна Мікалай,—як бы гэта растлумачыць ясней... Пасля кожнага скачка знаходзішся ў стане эйфарыі, ці што... Я нават не ведаю, з чым гэта можна параўнаць.

Мікалай — старшыня навуковага студэнцкага таварыства Мінскага радыётэхнічнага інстытута. Ён вельмі падобны на Валянціна: высокі, усмешлівы, лёгкі. Ён таксама скача з парашутам—546 скачкоў.

— Відаць,—працягвае ён,—такое адчувае пісьменнік, які скончыў кніжку, вынаходца, які ўбачыў сваё вынаходніцтва ў дзеянні, урач, што зрабіў складаную аперацыю. Хаця гэта зусім не азначае, што на нейкіх этапах табе не бывае страшна. Неяк я спытаў у Валянціна: «Пра што ты думаеш у самае апошняе імгненне перад катапульціраваннем?» Ведаеце, што ён адказаў? Ён адказаў: «Якога д'ябла мне ўсё гэта патрэбна! Але потым я пра ўсё гэта забываюся. Пра ўсё чыста». Што цягне чалавека ў неба, ніхто, відаць, растлумачыць не можа. Гэта, як каханне. Калі кахаеш, вельмі цяжка растлумачыць, за што. А калі раптам можаш растлумачыць, дык тады ўжо і не кахаеш.

«Дальбог, я змог такое, што ні адной скаціне не пад сілу»,—гаварыў Антуану дэ Сент-Экзюперы яго сябра Гійоме пасля таго, як пацярпеў авіяцыйную катастрофу ў Андах і здолеў выратавацца.

# ЯГО ПОЛЕ

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 3.)

пісваў. І ні адна праца вучоных, спецыялістаў, практыкаў, ні адна слушная рэкамендацыя, ні адзін цікавы эксперымент не заставаўся па-за ўвагай.

Дамашнія нават не чулі, калі клаўся спаць, калі ўставаў. Да другіх пеўняў над кніжкамі. Вучыўся. Выпісваў. Назапашваў веды. Як у дзяцінстве. Саматугам.

Завялі ў калгасе Кнігу палёў. Увялі севазварот. Нават калі за севазвароты пляжылі па чым дарма, адстаяў іх. Сталі строга ў гаспадарцы прытрымлівацца навуковай тэхналогіі апрацоўкі глебы.

Рабілася ўсё не на вошчуп. Быў адведзены вопытны ўчастак. На ім Аляксандр Сцяпанавіч правяраў усе навінкі. Апрабаваныя, яны затым шырока ўкараняліся ў практыку.

Пазваў да сябе надзейнага памочніка. Агранома Анатоля Давідовіча. Нават новыя хаты побач паставілі. Так зручней. Недалёка бегаць адзін да аднаго параіцца, падзяліцца сумненнямі, падтрымаць, калі трэба. Свайго памочніка ведаў Аляксандр Сцяпанавіч даўно, калі той яшчэ басаногі бегаў. Сябраваў з яго старэйшым братам Уладзімірам. Разам у КПЗБ уступалі, разам удзельнічалі ў падпольнай рабоце. Падлетак Толя не раз дапамагаў ім расклейваць лістоўкі і адозвы, вывешваць чырвоныя сцягі. Не давялося ўбачыць Валодзю новага жыцця. За яго загінуў. Аплакаў сябра Аляксандр Дрозд. Пакляўся дапамагчы стаць на ногі ягонаму брату—Анатолю. І вось цяпер побач з ім жывуць. Робяць агульную справу, тую, што стала для іх сэнсам жыцця, яго шчасцем. Аднолькавыя інтарэсы, турботы.

Доўга галовы ламалі, як прымусіць стаць ўрадлівымі калгасныя землі. Бедныя яны. Пясчаныя. Азоту—асновы асноў—ім бракуе. І ўзяць яго тады не было адкуль.

— Вось што, Толя,—звярнуўся неяк да агранома Аляксандр Сцяпанавіч,—кроў з носу, а трэба разжывацца насеннем лубіну.

Аграном ажно падскочыў: як сам не дадумаўся. Сапраўды, у іх глебах арганічныя ўгнаенні—эт, мала іх тады было—хутка мінералізуюцца, распадаюцца. Злакі натуральна не паспяваюць усмактваць у сябе спажыўныя рэчывы ўгнаенняў. Значыць, гэтыя глебы трэба ўвесь час падкармліваць, чым часцей, тым лепш. Лубін жа якраз і будзе садзейнічаць назапашванню ў ворыўным пласце арганічных рэчываў і азоту.

Пасеялі лубін. Спачатку мала. Некалькі гектараў салодкага на насенне. Шматгадовы горкі пасеялі на азіміне. Салодкі даў дзесяць з гакам цэнтнераў насення з кожнага гектара. Пасевы яго пашырылі, і праз час у «Праўду» пачалі наязджаць з іншых гаспадарак па насенне. Падсеяны ж горкі лубін пасля жніва пачынаў набірацца росту і да замаразкаў на кожным гектары з'яўлялася да паўтараста—двухсот цэнтнераў зялёнай масы. Лубін заворвалі—вось вам і кандэнсатар азоту. У прыватнасці, ураджайнасць бульбы на ўчастках з заворaным лубінам узрасла ўдвая. Паступова цяжэлі на зерне калгасныя палі. З цягам часу, па меры росту пагалоўя статку, палеткі ўсё больш пачалі атрымліваць арганічных угнаенняў, пабагацелі і на мінеральныя. Планамерна вялося і вапнаванне кіслых глеб.

Канечне, хутка слова кажацца, ды нялёгка справа робіцца. Як бы там ні было, але праз колькі год пагалоска пра добрыя справы калгаса «Праўда» выйшла ўжо за межы Кобрынскага раёна. Ухвальнае слова пра гаспадарку пакацілася па ўсім Прыбужжы. Аляксандру Сцяпанавічу было прысвоена званне заслужанага агранома рэспублікі.

Праўда, на той час падпільнавала яго хвароба. Падкасіла бязлітасна. Ледзь ачуняў.

Прыйшоў у райком партыі:

— Старшынёўства цяпер, мабыць, не пад сілу,—сказаў.

— Так, палячыцца, адпачыць вам трэба, Аляксандр Сцяпанавіч,—паспачувалі.

— Там падлечаць,—адмахнуўся.— А на адпачынак рана. Вось у агранomы наважыўся. А змену сабе даўно вырасціў.

Здзівіліся.

— Пра Анатоля Давідовіча кажу.

— А ці пацягне?—засумняваліся.

— Го, яшчэ як!

Верыў у вучня Аляксандр Сцяпанавіч. З ім згадзіліся і ў райкоме, падтрымалі яго і калгаснікі.

...За ўспамінамі не ўгледзеў Аляксандр Сцяпанавіч, як выкіраваў да лажка. Па той бок яго

Я. Іваноў

# ВЯСНОЙ

Я ШЧЭ не носяцца ў паветры апалелыя хрушчы, не пікіруюць зухавата на прыгожыя кветкі бэзу, ад якога звычайна і ў старых галовы кружацца... Але вечар па-вясноваму цёплы. З прыемнасцю прайшоўся б, пашпацыраваў, калі б...

Чорт пабяры, не магу я болей чуць гэтага брыдкага пісклявага голасу жончынай сваячкі Марылі! Далдоніць і далдоніць. Мянташыць і мянташыць. Аніякія таблеткі ад галаўнога болю не памагаюць ужо, хоць па кілаграму іх глытай. Трэцюю гадзіну без перапынку перамывае костачкі сваім суседзям. Ды яшчэ кожны раз крычыць мне з кухні:

— Мікалай Сямёнавіч, ці чулі вы што-небудзь такое?

— Якое... такое?

— Такое, якое...

А каб цябе, родненькая, з тваімі плёткамі! Балаболка няшчасная... Відаць, жонка на кухні ўвесь посуд перамыла, а гэтая—усё балбоча. Яшчэ ж званіць па тэлефоне будзе розным сяброўкам...

— Мікалай Сямёнавіч! Вы чулі? Суседачка ў мяне новая... Ага, нядаўна пераехала. Удава—маладая, прыгожая такая...

Ну, вось, цяпер пайшла распісваць: колькі у суседкі мэблі ды якая, якія сукенкі ды колькі.

— Апранецца, прыбярэцца—лялька! На такіх мужчыны ляцяць, як тыя матылькі на святло... Ой, не пашанцавала жанчынкам з нашага пад'езда, ха-ха-ха! Каго-небудь абавязкова падчэпіць..

— А раптам твайго Трафіма, Марыля? — не вытрымлівае і кпіць жонка.—Пакідаеш заўсёды аднаго... Глядзі, дзеўка! Не дарма гавораць: сівізна ў бараду—чорт у рабро...

— Ха-ха-ха!—зноў весела рагоча Марыля.—Майго дзеда... падчэпіць? Ды яму, дзівачка, акрамя тэлевізара нічагусенькі не трэба... Хочаш, зараз нават пазваню мужу — раскажу, як ты тут яго бэсціш... Пасмяецца! Ці не, дзынкну лепш гэтай удавіцы, яе пацешу, гаротніцу...

У прыадчыненыя дзверы я бачу, як таўставатая Марыля сунецца калідорам да тэлефона, здымае трубку, набірае нумар і пачынае манерна «алёкаць»:

— Алё, алё... Мабыць, яна спіць ужо? Алё! Хто гэта? Трафім?! Што ты там робіш?!

— ...

— Тэлевізар глядзіш?! Свайго нямашака, га? Вось як... Вось як...

Ну і фокус, ну і нумар!

Ачумелая Марыля маўчыць, усхвалявана, гнеўна дыхае ў тэлефонную трубку. Умомант знікае ўся яе напышлівасць, гарэзлівасць, твар пакутліва моршчыцца, чырванее: вось-вось заплача. Мінае хвіліна, другая, і пякучая рэўнасць ахоплівае жанчыну. Ужо дрыготкім, нейкім чужым трагічным голасам яна паўтарае:

— Ён там... У яе... Там ён...

Якія толькі грэшныя карціны не малюе яе ўяўленне!

Жонка спачувальна абдымае сваячку, супакойвае: «Ну, і што, калі зайшоў, ну і што?» А я... Я, здаецца, здагадваюся, у чым справа. Як следчы, строга пытаюся:

— Марыля, куды ты хацела пазваніць спачатку?

— Дамоў...

Раптам Марыля робіць вялікія вочы, пазірае на мяне здзіўлена, атарапела, а потым скеміўшы, пачынае нервова смяяцца і ўжо не гаворыць, а радасна, шчасліва крычыць у тэлефонную трубку:

— Трафімка, я зараз жа еду!

Едзь, едзь, галубка... Нарэшце!

ПАРНАСКІЯ ЎСМЕШКІ

## МІМАХОДЗЬ

☐ *У тыраж выходзяць не толькі абліганыі.*

☐ *Толькі прыняўшы валідол, супакойваўся на дасягнутым.*

☐ *Пры самай дасканалай касметыцы пажадана мець свой твар.*

Д. ПАЛОНСКІ.

☐ *Калі гавораць: «Жыве, як у бога за пазухай», гэта азначае, што ў чалавека ўмовы жыцця антысанітарныя.*

М. ШЛЯФЕР.

## У РЭДАКЦЫІ

*— Ну, як, таварыш рэдактар, мае вершы?*

*— Ды вось з рытмам у вас, калега, нейк не клеіцца... Амаль на кожным радку, бы на няроўнай дарозе, спатыкаешся...*

*— Дык гэта ж для таго, каб чытач не заснуў!*

Міхась ДАНІЛЕНКА-ХОЙНІЦКІ.

— Не, існаванне разумных істот на гэтай планеце выключана.

Мал. М. ЧАРНЯЎСКАГА.

*АВОХЦІ МНЕ...*

Рыгор ЯЎСЕЕЎ

## МЕСІК—НАМЕСНІК

Я па вуліцы хаджу,
Я на месячык гляджу.
Што ж ты свеціш, ды не грэеш,
Можа з зоркамі дурэеш!

Гаварыў паэт адзін,
Што падобны ты на блін.
Гаварыў другі: «Канечне,
Ён падобны на яечню».

Трэці — класік ён ужо —
Называў цябе нажом.
А чацвёрты — бледнай плямай,
Жаўтароцікам над брамай...

Быў ты добрым рыбаком,
Пастухом,
Вартаўніком,
Ёсць нямала меркаванняў,
Паэтычных параўнанняў.

Сядзем хіба на грудок —
Прысвячу табе радок.
Дарагі, шаноўны месік,
Я — паэт,
А ты — намеснік.

На паўнеба засмяяўся
І за хмараю схаваўся.

*ПА СВЕТУ ДОБРА ПАХАДЗІЎШЫ*

Жан-Поль ГРУСЭ

## ПАЛЁТ ПА РАСКЛАДУ

Як толькі самалёт узняўся ў паветра, адзін з пасажыраў падхапіўся з месца і, нацэліўшы рэвальвер на сцюардэсу, загадаў правесці яго ў кабіну пілота.

— Паварочвай на Сінгапур! — крыкнуў ён пілоту, тыцнуўшы ў патыліцу руляй рэвальвера.

Пілот стрымана адказаў:

— Гэта не мой напрамак, самалёт павінен прызямліцца ў Угадугу.

Раптам у дзвярах кабіны з'явіўся перапалоханы штурман.

— Беражыцеся! — ускрікнуў ён. — Нейкі чалавек пагражае мне зброяй.

Не паспеў ён вымавіць гэтых слоў, як другі пасажыр адштурхнуў яго ад дзвярэй і, ускінуўшы аўтамат, закрычаў пілоту:

— Я хачу ляцець у Рэйк'явік!

Становішча ўскладнілася: два паветраныя піраты на борце аднаго самалёта і кожны патрабуе ляцець у яго кірунку. Не трацячы вытрымкі пад нацэленай на яго зброяй, пілот, крыху падумаўшы, сказаў другому пірату.

— Гэты мсье прыйшоў раней за вас. Вы павінны згадзіцца, што за ім прыярытэт. Таму я бяру курс на Сінгапур.

Потым ён дадаў:

— Я ўпэўнены, што там вы знойдзеце самалёт, які даставіць вас у Рэйк'явік. А не, дык я сам зраблю туды рэйс пасля запраўкі.

— Добра, — прабурчаў пасажыр з аўтаматам. — Я згодны, — і, раззлаваны тым, што яго апярэдзілі, сеў на сваё месца.

Праз некалькі гадзін самалёт прызямліўся — не ў Сінгапуры і не ў Рэйк'явіку, а ў Угадугу, як і было прадугледжана раскладам.

У бары аэрапорта пілот сустрэўся з першым пасажырам.

— Цудоўна! — сказаў ён яму. — Застаючыся членам экіпажа, ты выдатна выконваеш ролю пасажыра і яшчэ лепш — ролю пірата.

— Галоўнае — патрапіць у тваю кабіну раней за сапраўднага пірата, — зазначыў той.

Задаволеныя сябры выпілі па чарцы за хітрасць, якую прыдумала кампанія, каб не даць піратам выкрасці самалёт.

Пераклаў з французскай Віталь АГРЫЗКА.

Мал. Л. МУРАШКІ.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах на шаснаццаці старонках.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856

АТ 05175

Адрас рэдакцыі: 220600. ГСП. Мінск. вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі—33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара—33-25-25, адказнага сакратара—33-44-04, аддзела літаратуры — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі — 33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-21-53, аддзела культуры — 33-24-62, выдавецтва —32-22-19, бухгалтэрыі — 32-15 87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.